*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ***



# НАША СЛОВА




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года № 19(404) 12 ТРАЎНЯ 1999 г.

## Вітанне VI з'езду ТБМ

## Васілю Быкаву

Паважаны Васіль Уладзіміравіч!

Дэлегаты і ўдзельнікі чарговага VI з'езду Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны маюць за гонар вітаць Вас, даўняга і шчырага сябра нашае арганізацыі.

З'езд засведчыў згуртаванасць і адданасць сталых сяброў і прыхільнікаў ТБМ, якія засталіся вернымі сваёй арганізацыі, не зважаючы на пэўныя цяжкасці. Апошнія падзеі на Беларусі паклікалі ў шэрагі Таварыства новых людзей, неабыякавых да лёсу мовы і краіны. Вельмі патрыятычна да ідэяў ТБМ ставяцца ў маладзёвым асяродку: у школах, каледжах, ВНУ, на прадпрыемствах растуць суполкі маладой Беларусі. Моладзь чытае новую беларускую гісторыю: "расстраляныя" радкі рэпрасаваных пісьменнікаў, дакументы пра змаганне "нацыяналістаў" супраць савецкай улады, а таксама спрабуе адшукаць у нетрах архіваў сведчанні маладзёвага супраціву сталінска-брэжнеўскай сістэме. У гэтай актыўнасці ёсць вынікі і Вашае працы. Маральны выбар Вашых герояў паўплываў на маральны выбар маладых беларусаў. Вашыя творы заўсёды былі і ёсць узорам праўды і сумлення. Вашая мова ўвабрала пракавечную моц нацыянальнага змагарнага духу.

Нялёгка пісьменніку, знітаванаму з роднай зямлёй, нават часова пакінуць яе і чэрпаць натхненне пад другім – незахмараным небам. Мы ўдзячныя Вам за дужасць і нястомнасць, за неаслабную вастрыню радка, які вяртае нам сапраўдную, ачышчаную ад чырвона-карычневага тынку Беларусь. Вашая творчасць дапамагае сённяшняму беларусу пазбавіцца ілюзіяў пра славянскае "братэрства" ды вечнае апекаванне суседа, абуджае сэрцы тутэйшых "паязджанаў".

Зычым Вам здароўя, натхнення, спору ў творчай працы.

Чакаем Вас і Вашых новых твораў. Спадзяёмся, што XXI стагоддзе Вы сустрэнеце ў родных мясцінах разам з намі.

Жыве Беларусь!

---

У мінулую суботу у сядзібе ТБМ адбыўся прагляд амерыканскага фільма "Пяты элемент" у перакладзе на беларускую мову Віталя Станішэўскага і Ганны Каморнік. На прагляд прыйшла у асноўным моладзь. Маладзёвая арганізацыя ТБМ, якая ладзіць гэтыя імпрэзы ў суботу ў 12.00, запрашае усіх жадаючых на прагляд фільма ў беларускім перакладзе "Ісус Хрыстос." Для тых хто хоча прагледзець "Пяты элемент" у беларускім перакладзе тэл. у Менску 240-78-01 ці абанентная скрыня 150.

*Алесь Гурыновіч*

Маладзёвая арганізацыя ТБМ працуе над выпускам беларускіх песеннікаў-песень пад гітару, застольных, народных і іншых. У нас ужо ёсць з паўсотні песень, але гэтага зразумела мала. Каб здейсніць задумку матэр'ялу трэба значна больш. Просьба да ўсіх хто ведае файныя беларускія песні пісьмова дасылаць іх, пажадана разам з нотамі, акордамі і г.д. Можна дасылаць, як невядомыя, так і вядомыя рэчы. Самыя лепшыя будуць адабраныя для песенных зборнікаў, а дасланыя іх узнагароджаны прызамі ад ТБМ.

*Алесь Гурыновіч.*



**Сакратарыят ТБМ і калектыў рэдкалегіі "Нашага слова" глыбока смуткуюць з прычыны заўчаснай смерці пісьменніка, былога супрацоўніка газеты**

**Мар'яна Віжа**

**і выказваюць шчырае спачуванне родным і блізкім нябожчыка.**

## ВІНШУЮ

Споўнілася роўна год, як утварыўся хор БНФ.

Кіруюць ім маладыя таленавітыя хлопцы: Алесь Галіч і Аляксей Фралоў. У хоры ўдзельнічаюць мужчыны, жанчыны, моладзь і людзі старэйшага ўзросту. Пяюць яны беларускія песні разнастайных жанраў: патрыятычныя, лірычныя, народныя, абрадавыя, святыя... і трэба чуць і бачыць, колькі душэўнай цеплыні, сардэчнай спагады і духоўнай сілы ўкладваюць выканаўцы ў кожную песню, кожны яе радок, кожнае слова. Пяюць яны паўсюдна: на мітынгах, шэсцях, святах, на ўшанаваннях знакамітых людзей Беларусі... І як свецяцца радасцю і ўдзячнасцю вочы беларусаў, калі ўдзельнікі хору пяюць на вуліцах і плошчах на Каляды,Гуканні вясны, на Купалле... Колькі цёплых, ласкавых слоў кажуць ім людзі. Зычу кіраўнікам і ўдзельнікам хору з Божае ласкі здароўя, сіл і поспехаў дзеля дабра нашай Маці-Беларусі.

*Ян Грыб, старшыня Рады ТБМ. Травень 1999.*

## Да угодкаў хору Б Н Ф

Спявай, Беларусь!
Спявай пяшчотную песню матулі
Над калыскай яе немаўляткі.
Сьпявай песні надзеі-гуканне вясны,
Жалобныя песні тугі і самоты
Па адданых сынах тваіх, што паляглі
Ці пайшлі без пары.
Спявай, Беларусь,
Пераможныя мужныя песні
Вояў славутых
Грунвальда, Воршы, Улы,
Песні змагарныя, што ад Касцюшкі
І касінераў твайго Кастуся.
Адчайную храбрасць Слуцкіх паўстанцаў,
Смаленска і Віцебска
Гімнам спявай.
Спявай, Беларусь, тыя песні святыя
Тваёй Еўфрасінні святой,
На радасць народу свайму
Працавітаму, дбайнаму,
На жах акупантам спявай, Беларусь.
Не плач пад чарнобыльскай хмараю чорнай,
Песні-малітвы да Бога спявай.
Спрадвеку жывуць твае слаўныя песні...
І покуль песні жывуць -
Жыве Беларусь!
А песні жывуць твае
ВЕЧНА !

*Ян Грыб . Травень 1999г.*

---

**Рашэннем Сакратарыяту ТБМ ад 7. 05. 1999 г. спынена дзейнасць Гомельскай гарадской арганізацыі ТБМ за парушэнні Статута ТБМ. У гэтай арганізацыі ў двухгадовы тэрмін не праведзена справаздачна-выбарчая канферэнцыя, не вылучаны дэлегаты на з'езд, прадстаўнікі гэтай арганізацыі не прынялі ўдзелу ў з'ездзе, не здалі складкі.**

## Змены ў графіку працы сядзібы ТБМ

З 1 траўня 1999 года сядзіба ТБМ у Менску па адрасу: вул. Румянцава, 13 працуе штодзённа, без выхадных з 10.00 да 19.00.

Ласкава запрашаем!

**Сакратарыят ТБМ дзякуе Саюзу палякаў за ахвяраванне ў памеры 10 мільёнаў рублёў на правядзенне VI з'езда ТБМ.**

Працягваецца збор подпісаў за адкрыццё Беларускага нацыянальнага універсітэта:
20 подпісаў даслана з Менска;
25 подпісаў даслана з Мар'інай Горкі.

## *Беларускія СМІ пра беларускую мову*

*Агляд і каментары Язэпа Палубяткі*

На паўсядзённым, пабытовым узроўні асабліва востра і балюча адчуваеш, як нейкі бязлітасны жалезны абруч сціскае горла роднаму слову. Пасля стагоддзяў жорсткага вынішчэння зараз, на парозе XXI веку, яна апынулася на трагічнай мяжы знікнення з паўсядзённага ўжытку, усіх сфер грамадскага жыцця. І не толькі ў горадзе.

**Святлана Кліменценка**
**"Народная воля" 27.04.99г.**

*Мяне дужа радуе, што сярод сучаснай моладзі адстойванне суверэнітэту Беларусі, ужыванне беларускай мовы робяцца прэстыжнымі. Матчына мова стала нават своеасаблівай модай. Хай гэта не зусім тое, па чым павінна трымацца любоў да нацыянальных святыняў, да сапраўднай дзяржаўнасці, але яно дарэчы.*

***З інтэрвію Генадзя Бураўкіна***
***ЛіМ 16.04.99г.***

Мова павінна быць па-над палітыкай. Менавіта па-над палітыкай, а не па-за ёй.

**Кірыла Пазняк**
**ЛіМ 23.04.99г.**

*Адпаведныя службы горада ў цэнтралізаваным парадку, пачынаючы з сярэдзіны 80-х гадоў і па сённяшні дзень, робяць надпісы вуліц г.Менска толькі па-беларуску і прытым з выкарыстаннем выразных мастацкіх і эстэтычных сродкаў. Разам з тым павялічваецца русіфікацыя вулічных паказальнікаў высілкамі асобных ведамстваў і установаў.*

***Мікалай Васільеў***
***ЛіМ 9.04. 99г.***

Прыслухоўваючыся да багатых гаворак тутэйшай зямлі, я ўбачыла, што мы прыніжаем памяць нашага слаўнага вучонага Браніслава Тарашкевіча. Ну навошта гэта мы мову зямлі, якая нам верна слугуе (і мова, і зямля!) абазвалі клічкай "тарашкевіца" ды яшчэ ў двухкоссе ўзялі, як недзеездольную?

**Ганна Матусевіч**
**"Наша Ніва" 26.04.99г.**

---


Botschaft der Bundesrepublik Deutschland
Пасольства Федэратыўнай Рэспублікі Германія ў Рэспубліцы Беларусь

ТБМ
вул. Румянцава, 13
220005 Менск
Беларусь

Дат; Пахавання нямецкіх жаўнераў у Пінску
тут: Артыкул у газеце "Наша слова"
Спасылка; Ваш ліст ад 23.03.1998г.

Шматпаважаны спадар Трусаў, дзякуем Вам за ваш ліст на імя пасла спадара д-ра Хорста Вінкельмана, на які я адказваю па яго даручэнню. Мы з цікавасцю прачыталі артыкул, прысланы разам з лістом. Рэспубліка Беларусь яшчэ не ратыфікавала германа-беларускае Пагадненне аб вайсковых пахаваннях, якое было падпісана 28 чэрвеня 1996 года. Народны Германскі Саюз па догляду ваенных магіл у Каселі будзе клапаціцца і рэгулярна даглядаць і гэтыя магілкі ў Пінску, як толькі Пагадненне ўступіць у сілу. На сёння гэта, нажаль, яшчэ немагчыма. Сваёй вялікай задачай мы лічым захаванне памяці аб ахвярах войнаў у мэтах служэння справе міру. Захаванне вайсковых пахаванняў з'яўляецца заклікам да міру і ў той жа час гуманным абавязкам. Ваенныя пахаванні робяць бачнымі ўзаемапаразуменне і прымірэнне.

З сяброўскім прывітаннем па даручэнню

Э. Шольц.

№ 19(404) 12 ТРАЎНЯ 1999 г. наша слова

# Рэспубліканская Рада ТБМ імя Францішка Скарыны,

## абраная на VI з'ездзе ТБМ 17 красавіка 1999 г.

№ Прозвішча, імя, імя па бацьку. Месца працы, пасада. Хатні адрас, тэлефоны.

1. Аксак Валянціна Іванаўна. Пісьменніца. 220050, г. Менск, вул. К. Маркса 21-44, т.х.227-89-64.
2. Арлоў Уладзімір Аляксеевіч. Часопіс "Крыніца",супрацоўнік. Пісьменнік. 220050, г. Менск, вул. К. Маркса 21-44, т.х.227-89-64.
3. Багданкевіч Святлана Мікалаеўна. Менскі педкаледж імя М.Танка, выкладчык. 220015, г. Менск, вул. Я. Маўра 26-18, т.х. 251-72-77.
4. Бураўкін Генадзь Мікалаевіч. Часопіс "Вожык", намеснік галоўнага рэдактара. Паэт. г. Менск, вул. Мележа 4-271, т.х. 262-29-73, т.с. 232-40-92.
5. Белы Анатоль Яўхімавіч. Галоўны рэдактар часопіса "Скрыжалі спадчыны", старшыня клуба "Спадчына". 220037, г.Менск, вул.Уральская 16-9, т.х.35-66-08.
6. Булавацкі Міхаіл Пятровіч. Беспрацоўны. 212030, г. Магілёў, вул. Ленінская, 33, т.х. (0222)22-70-51.
7. Валынец Алена Аляксандраўна. Студэнтка Беларускага універсітэта культуры, 2-гі курс. г. Менск, вул.Карбышава 1-2-11, т.х. 265-03-02.
8. Вячорка Валянцін Рыгоравіч (Вінцук Вячорка). Часопіс "Спадчына", намеснік галоўнага рэдактара. Старшыня НА "Супольнасць". 220040, г. Менск, вул. Кальцова 16-50, т.х. 261-68-49
9. Вабішчэвіч Віктар Васільевіч. Настаўнік СШ №1 Давыд –Гарадка, старшыня Столінскай Рады ТБМ. 225540, Берасцейская вобл., г. Давыд-Гарадок, вул. Калініна 16-3.
10. Гілевіч Ніл Сымонавіч. Народны паэт Беларусі, прафесар. 220030, г. Менск, вул.К.Маркса 36-19, т.х. 227-12-19.
11. Гурыновіч Алесь Іванавіч. Супрацоўнік газеты "Навіны", карэспандэнт газеты "Наша слова" па г. Менску. 220103, г. Менск, вул. Каліноўскага 53-1-64, т.х. 265-63-91, т.с. 210-02-54
12. Глушко Аляксей Віктаравіч. Супрацоўнік Скарынінскага цэнтра. 220013, г. Менск, вул. Я. Коласа 47-1-38, т.х. 231-90-88, т.с. 226-50-72.
13. Гуркоў Сяргей Мікалаевіч. Сябра сакратарыяту ТБМ, філолаг. 220100 г. Менск, вул. М. Багдановіча 143-79, т.х. 234-93-71.
14. Гарэцкі Радзім Гаўрылавіч. Інстытут геалагічных навук НАН РБ, прафесар. Прэзідэнт ЗБС "Бацькаўшчына". 220100, г. Менск, вул.Кульман 15-49, т. х. 234-45-81.
15. Дзіцэвіч Людміла Мікалаеўна. Беларускі універсітэт культуры, выкладчык. Намеснік старшыні ТБМ. 220138, г. Менск, вул. Геалагічная 123-44, т.х.268-14-35.
16. Дадзькоў Канстанцін Ігаравіч. Студэнт 5-га курса БДПА. Старшыня маладзёвага грамадскага аб'яднання "Хлоя". 220040, г. Менск, вул. Някрасава 17-30, т. х. 231-53-84.
17. Завальнюк Уладзіслаў. Касцёл Святых Сымона і Алены, пробашч, ксёндз-магістр. 220000, г. Менск, пл. Незалежнасці 15, Чырвоны касцёл, т.с. 220-44-15, 20-56-32.
18. Запрудскі Сяргей Мікалаевіч. Беларускі дзяржаўны універсітэт, дацэнт кафедры беларускай мовы. Кандыдат філалагічных навук. 220074, г. Менск, вул. Берута 17-3-116, т.х. 251-90-78.
19. Зуёнак Васіль Васільевіч. Пісьменнік, сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў. 220088, г.Менск, вул. Пупіхава 31-1-8, т.х. 236-99-57.
20. Іпатава Вольга Міхайлаўна. Саюз беларускіх пісьменнікаў, намеснік старшыні Рады беларускіх пісьменнікаў. Пісьменніца. 220123, г. Менск, вул. В. Харужай 10-2-16, т.х. 263-25-93.
21. Кавальчук Раман Антонавіч. Прэс-сакратар Згуртавання беларускай моладзі Летувы (ЗБМЛ), сябра Цэнтральнае Рады "Маладога фронту". 220100, г.Менск, вул. Багдановіча 147-127, т.х. 234-64-11, т.с. 284-50-12.
22. Кручкоў Сяржук Мікалаевіч. Кіраўнік справамі ТБМ, інжынер-будаўнік. 220103, г. Менск, вул. Сядых 50-9, т.х. 265-34-83.
23. Кузьміч Вольга Аляксандраўна. Беларускі дзяржаўны тэхналагічны універсітэт, загадчыца кафедры беларускай мовы. 220125, г. Менск, вул. П. Глебкі 18-39, т.х. 255-82-38, т.с. 227-62-41.
24. Кірылаў Герман Іларыёнавіч. Пенсіянер. 211401, г. Полацк, вул. Свярдлова, 17-19, т.х. (02144) 4-52-47.
25. Красоўскі Леанід Мікалаевіч. Мікуліцкая базавая школа. Настаўнік. 223310, в.Мікулічы Бярэзінскага р-н, Менская вобл. т.х. 52-6-72.
26. Лавіцкі Мікалай Емельянавіч. Менскі аўтамабільны завод, рабочы. Першы намеснік старшыні ТБМ. 220007, г. Менск, вул. Альтылерыстаў 9-62, т.х. 224-69-13.
27. Лыч Леанід Міхайлавіч. Інстытут гісторыі НАН РБ, вядучы навуковы супрацоўнік, прафесар, доктар гістарычных навук. 220035, г.Менск, пр. Машэрава 43-2-17, т.х. 223-17-84.
28. Лугоўскі Аляксандр Іванавіч. Беларускі дзяржаўны педагагічны універсітэт імя М. Танка, дэкан філфака. 220098, г. Менск, вул. Ясеніна 123-179, т.х. 226-44-41.
29. Марачкіна Ірына Сяргееўна. Адказны сакратар ТБМ. 220049, г. Менск, вул. Валагаградская 27-16, т.х. 210-13-93.
30. Макарэвіч Віталь Сяргеевіч. Старшыня Рады ТБМ гістфака Беларускага дзяржаўнага універсітэта, студэнт гістфака БДУ 3 курса. Г.Менск, вул. Якубава 32-423, т.х. 247-45-87.
31. Мацюкевіч Марыя Сцяпанаўна. Сярэдняя школа № 11 г.Салігорска, настаўніца. Старшыня Салігорскай Рады ТБМ. 223710, г. Салігорск, Менскай вобл., вул. Заслонава 95-227, т.х. (210) 32-1-25.
32. Майсеня Людміла Іосіфаўна. Беларускі дзяржаўны універсітэт інфарматыкі і радыётэхнікі, дацэнт. 220012, г. Менск, вул. К. Чорнага 13а-36, т.х. 266-98-69.
33. Навумчык Іосіф Адамавіч. Пенсіянер. Старшыня Віцебскай абласной Рады ТБМ. 210126, г. Віцебск, вул. Урыцкага 10-7, т.х. (0212) 36-90-60.
34. Нагорны Юрый Аляксандравіч. Сярэдняя школа № 22 г. Орша, настаўнік. 211011, Аршанскі р-н, Віцебская вобл., г. Барань, вул.Зарэчная, 6-86, т.х. 5-26-93, т.с.5-21-33.
35. Палсцюк Валеры Віктаравіч. СКБ "Каментори", галоўны канструктар аддзела. 220141, г. Менск, вул. Русіянава 30-2-38, т.х. 260-12-74, т.с. 222-17-90.
36. Пяткевіч Аляксей Міхайлавіч. Гарадзенскі дзяржаўны універсітэт, загадчык кафедры беларускай культуры. 230009, г. Горадня, вул. М. Горкага 78-13, т.х. (0152) 33-67-58.
37. Раманцэвіч Валянціна Карлаўна. Менскі дзяржаўны педкаледж №1, выкладчык беларускай мовы і літаратуры. Г. Менск, вул. Мендзялеева 19-39, т.х. 235-11-04.
38. Санько Зміцер Хведаравіч. НВК "Тэхналогія", галоўны рэдактар, кандыдат біялагічных навук. 220068, г.Мінск, вул. Арлоўская 5-50, т.х. 269-00-75, т.с. 227-19-40.
39. Савіцкі Мікалай Іванавіч. Беларускі дзяржаўны эканамічны універсіт, прафесар. Намеснік старшыні Менскай гарадской Рады ТБМ. 220028, г. Менск, вул. Маякоўскага 152-80, т.х. 221-71-50, т.с. 249-19-81.
40. Спосабаў Іван Іванавіч. Менскі аўтамабільны завод, рабочы. 223064, Менскі р-н, вёска Замасточча, т. 599-65-58.
41. Суднік Станіслаў Вацлававіч. Рэдактар газеты "Наша слова". 231300, г.Ліда, вул. Зарэчная 5-17, т.х. (01561) 2-77-56.
42. Содаль Уладзімір Ілліч. Беларускае тэлебачанне, супрацоўнік. Пісьменнік. 220114, г. Менск, вул. Каліноўскага 82-2-54, т.х. 264-78-48.
43. Трусаў Алег Анатольевіч. Беларускі універсітэт культуры, дацэнт, кандыдат гістарычных навук. Старшыня ТБМ. 220095, г. Мінск, вул. Пуліхава 56-1-135, т.х. 249-70-30.
44. Хрол Часлаў Часлававіч. Полацкая нацыянальгная гімназія, настаўнік беларускай мовы і літаратуры. 211400, г. Полацк, вул. Марыненка 32-48.
45. Цыхун Генадзь Апанасавіч. Інстытут мовазнаўства НАН РБ, загадчык сектара славяназнаўства, прафесар. 220100, г. Менск, вул.Цнянская 3-28, т.х. 232-34-05, т.с. 268-56-07.
46. Шпакоўскі Юры Францавіч. Студэнт Беларускага дзяржаўнага тэхналагічнага універсітэта 3 курса. 222720, г. Дзяржынск, Менская вобл., вул.Фурманава 7-28.
47. Яфрэмаў Алег Анатольевіч. Творчая майстэрня архітэктара Гаўрыкава, галоўны бухгалтар. 220025, г. Менск, вул. Касманаўтаў 48-134, т.х. 279-88-15, т.с. 245-01-61.
48. Ялугін Эрнест Васільевіч. Пісьменнік 220086, г. Менск, вул.Славінскага 37-342, т.х. 211-84-20.
49. Яцкевіч Сяргей Анатольевіч. Міжнародная акадэмія вывучэння нацменшсцяў, доктар навук, прафесар. 224005, г. Берасце, вул.Пушкінская, 1-22, т.х. (01622) 6-25-14, т.с. 3-23-30.

## Секратарыят Таварыства беларускай мовы

| № | Прозвішча, імя. | Месца працы, пасада. |
|---|---|---|
| 1. | Трусаў Алег | Беларускі універсітэт культуры, дацэнт, канд.гіст.навук. |
| 2. | Лавіцкі Мікалай | рабочы-тэрміст аўтазавода |
| 3. | Дзіцэвіч Людміла | выкладчыца Беларускага універсітэта культуры |
| 4. | Палсцюк Валеры | інж.-канструктар |
| 5. | Гурыновіч Алесь | супрацоўнік газ."Навіны" |
| 6. | Багданкевіч Святлана | выкладчыца педкаледжа |
| 7. | Глушко Аляксей | вядучы спецыяліст Скарынаўскага цэнтра |
| 8. | Гуркоў Сяргей | супрацоўнік ЗАТ "Сотвар" |
| 9. | Бордак Уладзімір | майстар участка |
| 10. | Кручкоў Сяргей | кіраўнік спраў ТБМ |
| 11. | Марачкіна Ірына | адказны сакратар ТБМ |
| 12. | Навасельская Таццяна | тэхнічны сакратар ТБМ |

## Рэвізійная камісія ТБМ

| № | Прозвішча, імя. | Месца працы, пасада. |
|---|---|---|
| 1. | Кішкурна Уладзімір | старшыня камісіі, прыватны прадпрымальнік |
| 2. | Чэчат Аляксандр | выкладчык педагагічнага каледжа |
| 3. | Скамарох Сяргей | намеснік дырэктара Завода колавых цягачоў |
| 4. | Гюнтар Барыс | сакратар ЦВК |
| 5. | Русаў Пётр | вядучы археолаг інстытута Белспецпраектрэстаўрацыя |



Прэзідыум VI з'езду ТБМ

## Пасляз'ездаўская прэс-канферэнцыя у сядзібе ТБМ

5 траўня ў сядзібе ТБМ адбылася прэс-канферэнцыя па выніках 6 з'езду ТБМ. Прысутныя журналісты атрымалі матэрыялы з'езду, тэксты віншавальных тэлеграм В.Быкаву і Чыгіру. Старшыня таварыства А.А. Трусаў распавёў прысутным аб цяперашнім становішчы арганізацыі. Зараз у ТБМ 2700 сябраў якія маюць білеты і плоцяць складкі, а таксама 10-15 тыс. прыхільнікаў, якія ўдзельнічаюць у дзейнасці эпізадычна ці даюць ахвяраванні. Напрыклад нядаўна ў сядзібу Таварыства завітаў араб, які размаўляў на добрай беларускай мове, ахвяраваў сем мільёнаў, толькі прасіў не афішаваць яго імя- дай Алах яму добрага здароў'я. Больш за дваццаць суполак ТБМ знаходзіцца за мяжой - у Летуве, Расеі, Польшчы, Францыі, ЗША, Ірландыі, Англіі, Аўстраліі. Напрыклад, немалая суполка знаходзіцца у краснаярскім краі, дзе пражывае больш 50-ці тысяч беларусаў, у Краснаярску амаль усё кіраўніцтва горада - беларусы. Суполка выдае сваю газету. Таксама сп. А.А. Трусаў запэўніў, што у "Нашым слове" ў хуткім часе будуць цалкам надрукаваны даклады Стражава і Пашкевіча.

Далей перад журналістамі выступіў намеснік сп. Трусава, - рабочы аўтамабільнага завода сп. Лавіцкі, які выказаў сваё бачанне дзейнасці Таварыства. Ён сказаў - калі ёсць магчымасць, трэба супрацоўнічаць з уладамі, калі гэта на карысць Бацькаўшчыне. У дзяржаўных структурах ёсць шмат людзей, якія прыхавана падтрымліваюць родную мову, шмат таксама патэнцыйных нашых сяброў мы яшчэ не адкрылі. Людміла Дзіцэвіч распавяла пра культурна-асветніцкую працу, сувязі з іншымі арганізацыямі. Наладжаны сувязі з Таварыствам ірландскай мовы. Зараз ТБМ здзяйснае праект перакладу лепшых польскіх стужак на беларускую мову і паказу іх . Прагучала інфармацыя аб стане беларускай мовы у царкве. Каталіцкі касцёл зараз амаль цалкам перайшоў на беларускую мову. Ксёндз Завальнюк--сябар рады ТБМ. Непараўнальна горшы стан беларускай мовы у царкве. Было распаведзена таксама пра рэпрэсіі ўладаў супраць беларускай мовы. Адзін з лепшых матэматыкаў былога СССР Булавацкі Міхась звольнены з працы за выкладанне матэматыкі на беларускай мове.

У Касцюковічах за працу па адраджэнні беларускай мовы звольнена з працы Леўчанка Людміла Пятроўна, дарэчы, сама па нацыянальнасці руская. А таксама шмат інш. прыкладаў.

Напрыканцы канферэнцыі для журналістаў прагучалі заявы, аб рашучым пратэсце супраць намеру "галоўнага барацьбіта з усім беларускім", перайменаваць праспект Скарыны у "праспект Победы", а таксама аб падтрымцы Саюза палякаў у змаганні за правы атрымліваць адукацыю на роднай мове.

*Алесь Гурыновіч.*





Чатыры тыдні ў красавіку

## Час смутку і жалю, веснавога паўнаводдзя ды несупыннага змагання за беларускасць, упераменжку з Вялікаднямі

### Прыватны агляд беларускага друку

*Якой быць нацыянальнай ідэі?*
*(Людміла Лясун, ЛіМ 23.04.99г.)*
*Ці выратуе нас нацыяналізм?*
*(В.Арцішэўскі "Пагоня" 13.04.99 г.*

Красавік. Сярэдзіна вясны. Час аднаўлення ў прыродзе і душах людскіх паўсюдна. Ды толькі не ў беларусаў. Тут якраз усё наадварот. Жаль і смутак не пакідае нашую гаротную зямлю. Калі цяжкі крыж чарнобыльскай навалы да сконy веку будзе завяршаць квецень, то сёлета распачаўся ён не меншым сумам і жалем, з заўчаснай і недарэчнай смерці Генадзя Карпенкі. Смерць кожнага чалавека прымушае задумацца жывых аб вечным, смерць Асобы, — аб недарэчным існаванні усіх нас у гэтым забытым Богам краі, аддадзеным на здзек Люцыферу.

Прырода і чалавек не існуюць паасобку. Яны адно цэлае. І тое даказаў сёлетні красавік. Палеская паводка на пару тыдняў змусіла жыхароў гэтага рэгіёну сам насам сутыкнуцца са стыхіяю. І ўсё ж гэта не Чарнобыльская навала, яна толькі на нейкі час прымусіла людзей пакінуць свой родны кут. Неўтаймаваная стыхія хутка схлынула і засталася ў людской памяці непрыемным момантам. Варта яшчэ заўважыць, што ў красавіку мы адсвяткавалі каталіцкі і праваслаўны Вялікдзень, светлы дзень Уваскрашэння Хрыстова ды толькі чамусьці хутка забыліся і не ўспомнілі нават у друку, што воляю першай асобы дзяржавы гэтае свята ператворана ў звычайны будні дзень.

І ўсё ж тое, што мы ёсць беларусы і пытанне беларускасці як і самой беларускай мовы сёння існуе не менш востра, як учора прымусіла нас горача гаварыць аб тым VI з'езду Таварыства беларускае мовы імя Францішка Скарыны. З'езд энтузіястаў, бо толькі дзякуючых іх іх нястомным намаганням жыве і будзе жыць роднае слова.

Друк зноў павярнуўся тварам да гэтае праблемы.

Сярод гэтай будзённай інфармацыі куды можна яшчэ аднесці падзеі балканскай вайны, варта выдзеліць адну праблему. Бадай яна для нас з'яўляецца галоўнай. Яна стрыжань нашай будучыні. Гэта – нацыянальная ідэя. Як не дзіўна, але факт ёсць факт і мы мусім канстатаваць, нацыянальную ідэю першым агучыў у нас Прэзідэнт РБ. Не трэба мець вялікага розуму, каб здагадацца, што тое не ініцыятыва Аляксандра Лукашэнкі. Паколькі ён вялікі аматар расейскіх запазычванняў, то і "нацыянальная ідэя" у нас ёсць водгук тамтэйшых памкненняў у гэтым кірунку, бо, як вядома, расейскі "прэзідэнт Ельцын не так даўно выказаў прапанову, каб расейскія вучоныя – гуманітарыі выпрацавалі канцэпцыю нацыянальнай ідэі новай Расеі.

Сваё стаўленне да нацыянальнай ідэі выказала Людміла Лясун у адным з красавіцкіх нумароў ЛіМа ў артыкуле. "Дзе нарадзіліся і ўскормлены ... Пра нацыянальную ідэю і дзяржаўную ідэалогію".

Аўтарка грунтоўна сцвярджае, што "паняцце нацыянальная ідэя" аформілася, як філасофскі і палітычны тэрмін у канцы XIX і пачатку XX стагоддзя, хоць яго сэнсавае значэнне ў якасці нацыянальнага інтарэсу, нацыянальнага пытання і нацыянальнага духу было ўласціва філасофскаму мысленню і грамадскай практыцы з даўніх часоў.

Бясспрэчны той факт, з якім нельга не пагадзіцца, што адным з важнейшых аспектаў сцвярджэння нацыянальнай свядомасці з'яўляецца палітычная лінія дзяржаўных дзеячоў на абарону нацыянальных інтарэсаў.

Абгрунтаванне самой нацыянальнай ідэі – кароткі гістарычны экскурс.

Відавочна, што нацыянальная ідэя гэта ёсць стрыжань не толькі дзяржаўнасці, гэта аснова існавання нацыі, бо не аб'яднаныя ідэяй людзі ўтвараюць сабою звычайны натоўп.

У гэтым плане пытанняў бадай болей чым адказаў. І вельмі добра, што такія пытанні ставяцца ў наш няпросты час.

Сярод іншых артыкулаў месяца на гэтую тэму ў беларускім друку неабходна засяродзіць увагу на разважанні ў газеце "Пагоня" ад 13.04.99г. сустаршыні Беларускай нацыянальнай партыі, кандыдата тэхнічных навук В. Арцішэўскага. У сваім артыкуле "Нацыяналізм – базавае звяно ідэалогіі сацыяльнай гармоніі" аўтар нацыянальную ідэю дапаўняе ідэалогіяй сацыяльнай гармоніі ды выражае гэта наступнымі палажэннямі:

1) Сям'я з'яўляецца базавым звяном нацыі, узнаўляльнікам яе генафонду, галоўным захавальнікам і спажыўцом нацыянальных багаццяў.

2) Нацыя з'яўляецца базавай ячэйкай тэхналагічнай цывілізацыі, яе фундаментам, разбурэнне якога вядзе да дэградацыі і разбурэння цывілізацыі.

3) Гарманічная развіццё нацыі магчыма толькі пад кіраўніцтвам сацыяльнай групы ўласнікаў пры ўмовах антыманапольных законаў.

4) Раўнапраўны саюз свабодных нацый ( ні ў якім разе не дзяржава нацый) пры тэхналагічнай інтэграцыі (не экспансіі, не асіміляцыі) – аснова новага ўзроўню развіцця цывілізацыі.

Прыемна адчуваць, што існуюць розныя пункты гледжання на гэтую праблему. Пры дэталёвым разглядзе як гэтых так і іншых меркаванняў можна з упэўненасцю сцвярджаць, што яны не супярэчаць адну аднаму, а толькі дапаўняюць.

І чым больш на гэты конт думак меркаванняў, прапаноў тым большая ўпэўненасць, што беларуская ідэя не згасне, а будзе сталым падмуркам нашае дзяржаўнасці, дабрабыту людзей ды адраджэння і росквіту нацыі.

*Язэп Палубятка.*

## "Эпізоды"

У Нью-Ёрку ў выдавецтве газеты "Беларус" у 1998 г. выйшла з друку кніга Яўхіма Кіпеля (1898-1969) "Эпізоды". Кніга выбітнага беларускага грамадскага дзейніка Я.Кіпеля рэдагаваная І.Урбановіч і Зм.Саўкам, якія справядліва адзначаюць, што яе старонкі яскрава сведчаць аб тым, што апісанае ў кнізе на вялікі жаль, часта паўтараецца і ў нашы дні. Апісваюцца ж у кнізе падзеі ці не ўсіх першых трох чвэрцяў XX стагоддзя, у тым ліку спробы русіфікацыі малых беларусаў у дарэвалюцыйнай школе, рух за стварэнне беларускай арміі ў 1917 годзе, Камуністычны з'езд у Смаленску, на якім была абвешчана ССРБ. Падрабязна распавядана пра пачаткі беларусізацыі ў Менску, працу аўтара ўспамінаў у беларускіх часопісах, педагагічная ягоная праца, вучэнне ў Беларускім універсітэце, праца ў Інбелкульце. Асабліва ўсхвалявалі мяне, як чытача, успаміны, пра першы арышт і следства, жыццё ў высылцы, паўторны арышт і жудасную працу на першым па ліку, даваенным яшчэ, БАМе, пра жыццё пад нямецкай акупацыяй, вымушаную эміграцыю ў Нямеччыну і ЗША.

*Валянцін Грыцкевіч, 4.04.99г.*


Канспэкт
Незалежнае выданьне полацкіх студэнтаў
Коратка пра галоўнае
Бард у ПДУ

Выйшлі першыя нумары незалежнага выдання полацкіх студэнтаў "Канспэкт". Аб'ём 8 палос фармату А-4. Рэдактар Андрусь Храпавіцкі. Наклад традыцыйны-299 асобнікаў. У выданні адчуваецца значны ўплыў ЗБС.

## Жаночы семінар у Лідзе

1 траўня у Лідзе адбыўся цікавы семінар. Цікавым ды адметным гэты семінар стаўся таму, што ён быў прызначаны дзеля жанчын і ўдзел у ім прымалі таксама толькі жанчыны. Гэта зусім не азначае, што ў Лідзе назіраецца дыскрымінацыя мужчын, зусім не. Проста жанчыны таксама маюць права на сваю актыўнасць не толькі каля пліты альбо каля тазіка з бруднай бялізнай.

На семінар у Лідзе былі запрошаны прадстаўніцы з міністэрства адукацыі, сацыяльнага забяспячэння, дасведчаны юрыст зрабіла намаганне пракансультаваць жанчын у вобласці працоўнага заканадаўства, якое, як быццам, і прадугледжвае шматлікія ільготы жанчынам-працаўніцам і зусім не прадугледжвае дыскрымінацыі па расавых, палітычных або палавых прыкметах, тым не менш, ні для каго не з'яўляецца сакрэтам, што часцяком звальняюць прадстаўнікоў апазіцыі ды не прымаюць на працу цяжарных жанчын.

Дастаткова пазнаёміцца з тымі аб'явамі, якія даюць у прэсе патэнцыйныя працадаўнікі: патрабуюцца маладыя незамужнія дзяўчаты (радзей) альбо маладыя мужчыны (значна часцей).

На семінар была запрошана і госця са Злучаных Штатаў Амерыкі. Гэта была спадарыня Кэрын М.Уайльд, якая прадстаўляла Валанцёраў у партнёрстве Інтэрнэшнл. Спадарыня Кэрын надзвычай цікавіцца жыццём беларускіх жанчын. Яна спадзяецца на арганізацыю супольнага праекту паміж амерыканскімі і беларускімі жанчынамі.

На жаль, на семінары было мала настаўнікаў. Яно і не дзіўна, бо ў наш цяжкі час патрэбна найперш дбаць аб тым, як пракарміць сябе ды сваю сям'ю. Таму і скарысталася наша настаўніцтва волным днём ды выправілася ў вёску ці лецішча садзіць бульбу. А шкада, бо на семінары яны маглі б знайсці агульную гаворку з прадастаўніцай міністэрства адукацыі.

Застаецца зазначыць, што семінар быў наладжаны Свабодным прафсаюзам беларускім ды Беларускім жаночым рухам "Адраджэнне Айчыны".

Пасля афіцыйнай часткі перад жанчынамі выступіў вядомы беларускі бард Віктар Шалкевіч, у яго ўжо склаліся добрыя статункі з лідскімі слухачамі.

*Лілея Сазанавец.*

## Вандроўка ў Ліду

Група беларусаў Вільні разам з кіраўніком ТБК Хведарам Нюнькам наведалі Ліду. Галоўная мэта вандроўкі – наведванне праваслаўных могілак, што на Савецкай вуліцы, успомніць і пакланіцца вядомаму беларускаму паэту і нацыянальнаму дзеячу Юльяну Саковічу, расстралянаму ў чэрвені 1943 года і пахаванаму на гэтых могілках. Жахлівае відовішча: частку могілак занялі пад цеплатрасу, другую – пад аўтобусны прыпынак, помнікі і надмагільныя пліты ляжаць, усё запушчанае, зарасло дзікай травой, праз могілкі праходзяць сцежкі. Відаць, скарочваюць шлях людзі ад прыпынку да прадпрыемства, якое "напаўзло" аж на могілкі. У Летуве, у Пабродзі, жыве жонка Юльяна Саковіча і дачка Вольга. Вольга Юльянаўна разам з намі была ў Лідзе. Яна і распавяла, калі яны разам з маці першы раз прыехалі на месца пахавання бацькі, то ёй хацелася дзіка выць і крычаць ад убачанага. Трэба ўпарадкаваць месца захавання, паставіць помнік, каб нашыя і будучыя нашчадкі ведалі і помнілі сваіх беларускіх нацыянальных дзеячоў, якія за вольную Беларусь аддалі жыццё, яны рабілі гісторыю, будавалі будучыню, таму і заслугоўваюць пашаны і памяці. Гэта можна зрабіць сумеснымі намаганнямі.

Другая мэта вандроўкі – сустрэча з галоўным рэдактарам "Нашага слова" Станіславам Суднікам, кіраўніком ТБМ Ліды Лілеяй Сазанавец, наладжванне сувязяў для дальнейшай працы на карысць беларускасці. Пазнаёміцца з горадам, наведаць гістарычныя мясціны. Усё атрымалася, нават, надвор'е спрыяла – цёплы сонечны красавіцкі дзень. І горад уразіў сваёй чысцінёй, прасторай, асаблівa раён, дзе адбывалася сустрэча, каб не адно "але" – мяжа. Калі едзеш аўтобусам, яшчэ паўбяды, гадзінка, другая і прапусцяць. А вось, калі сваім транспартам, то трэба мець жалезную вытрымку і цярпенне. З летувіскімі мытнікамі ўсё нармальна, краіна імкнецца ў Еўропу, таму і абслугоўванне адпаведнае. Сваракоца. А вось, беларускія мытнікі, нашыя суайчыннікі, увесь настрой і ўражанні сапсавалі на завяршэнне.

Для іх тут адкрываецца шырокае поле дзейнасці паказаць сябе "вялікімі начальнікамі". Да мяжы пад'ехалі ў 7,35 (па беларускаму ў 8г.35хв.), прастаялі перад шлагбаўмам аж да 12 гадзін. У іх у гэты час гадзіну была перасменка, паўгадзіны рыхтаваліся, потым яшчэ паўгадзіны дакументы афармлялі, здавалі. На пытанне: "Колькі працягваецца перасменка?". Быў адказ: "Сколько нужно, столько і будет!" Рэзка, коратка і катэгарычна. І гэта не ўсё, прапусцілі на тэрыторыю і там пратрымалі амаль гадзіну, бо ў гэты час афармлялі і правяралі аўтобус, які заехаў на тэрыторыю да перасменкі. У свеце няма такога здзеку і нахабства. Дзве гадзіны спатрэбілася патрыцыць, каб праехаць з Ліды да Вільні і тры гадзіны – каб праехаць беларускую мяжу, а каб праехаць летувіскую спатрэбілася дзесяць хвілін. І гэта толькі ў адным кірунку. У дадзеным выпадку яшчэ не самая горшая сітуацыя, у другіх пунктах перасячэння мяжы трэба стаяць у чарзе і па восем гадзін. Адзін раз праедзеш, а на другі раз і падумаеш, што даражэй. Вось так, насільна, і адрываюць ад сваіх каранёў. Тут і ўзнікае пытанне: "Чаму не для людзей, а наадварот?"

*Леакадзія Мілаш*

## Юбілейныя даты 1999 года

З 1994 года Нацыянальная бібліятэка Беларусі выдае вельмі цікавы дапаможнік "Знамянальныя і памятныя даты сусветнага календара" (складальнік Галіна Брага). Кожны яго выпуск прапануе матэрыялы, прысвечаныя юбілейным датам бягучага года. Выданне адкрываецца пашыраным спісам памятных дат на 1999 год. Далей змешчаны мтэрыялы, прымерквныя да юбілеяў тых дзеячоў сусветнай культуры, на якія раім звярнуць асаблівую ўвагу; 400 - годдзе з дня нараджэння іспанскага мастака Дыега Веласкеса (1599-1660); 200-годдзе расейскага паэта Аляксандра Сяргеевіча Пушкіна (1799-1837); 100-годдзе амерыканскага пісьменнік Эрнэста Хемінгуэя (1899-1961); 70-годдзе пісьменніка, рэжысёра і акцёра кіно Васіля Макаравіч Шукшына (1929-1974; 250-годдзе нямецкага пісьменніка, мысліцеля і прыродазнаўца, аднаго з заснавальнікаў нямецкай літаратуры новга часу Іагана Вольфганга Гётэ (1749-1832); 250- годдзе расейскага пісьменніка, філосафа-матэрыяліста, рэвалюцыянера-асветніка Аляксандра Мікалаевіча Радзішчава (1749-1802); 150-годдзе вялікага рускага вучонага-фізіёлага, класіка прыродазнаўства, акадэміка Івана Пятровіча Паўлава (1849-1936);125 -годдзе мастака, пісьменніка, філосафа, археолага, падарожніка Мікалая Канстанцінавіча Рэрыха (1874-1947); 170-годдзе рускага піяніста, кампазітара, дырыжора, педагога і музычнага дзеяча Антона Рыгоравіча Рубінштэйна (1829-1894); 200-годдзе рускага мастака Карла Паўлавіча Брулова (1799-1852) і інш.

Да кожнай даты даецца грунтоўная даведка аб жыцці і творчасці персаналіі і спіс літаратуры.

*Варанько Кацярына Дзмітрыеўна, галоўны бібліёграф Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі, тэл. 226-16-80. Адрас; 220015, г.Менск, вул. Янкі Маўра, д.9 кв83.*

Людміла Майсеня

# ТРЭБА МЕЦЬ МУЖНАСЦЬ І СІЛЫ ДЛЯ КАНКРЭТНАЙ СТВАРАЛЬНАЙ ПРАЦЫ Ў НЕСПРЫЯЛЬНЫХ ПАЛІТЫЧНЫХ УМОВАХ

(выступленне на шостым з'ездзе Таварыства беларускай мовы)

Дарагія сябры!

Сёння ўжо прагучалі шэраг фактаў, якія, як сказаў наш суродзіч з Санкт-Пецярбурга сп. Валянцін Грыцкевіч, можна кваліфікаваць, як лінгвацыд, што пераходзіць у этнацыд беларускай нацыі. Як і прагучаў непераканаўчы адказ сп. міністра адукацыі В. Стражава на крытычныя заўвагі. Пра што можна казаць, калі за тры апошнія навучальныя гады колькасць першакласнікаў, якія вучацца па-беларуску, у сталіцы Беларусі скарацілася больш чым у 10 разоў і складае сёння толькі няпоўныя 5% ад тых, хто пачаў навучанне ў Менску? Але наконт грунтоўнасці адказу міністра і адказаў прысутных тут афіцыйных асобаў ( а таксама дзеянняў цяперашняга кіраўніцтва нашай дзяржавы) дасць яшчэ сваю ацэнку гісторыя. І гэтая ацэнка будзе найбольш адэкватная. Мы ведаем, што памяць аднаго чалавека ў дачыненні да нейкіх падзей (як і энергетыка адной асобы) - гэта вельмі моцная сіла. Мне не хочацца прыцягваць містыку, але тая энергетыка, якую назапасіць беларуская нацыя пры ацэнцы ўсяго таго негатыўнага, што адбываецца зараз у Беларусі, таксама зробіць сваю справу. Хутка ці вельмі хутка. Сёння я не хачу болей развіваць гэтую тэму і казаць пра той рахунак, які выстаўляем мы да іншых (пра гэта, напэўна, яшчэ будзе тут сказана). Сёння я хачу казаць пра той рахунак, які мы павінны выставіць самі да сябе. Як сцвярджае чалавечая мараль, рахунак да сябе павінен быць найбольш жорсткім, найбольш патрабавальным. Давайце паставім пытанне: **"Ці ўсё зрабіў кожны з нас, каб увайсці ў Новую Беларусь?"** Я мяркую, што не ўсё. Мне не хочацца кагосьці пакрыўдзіць, але нават сярод прысутных у гэтай зале я ведаю людзей, якія, выходзячы за сцены выключна беларускамоўнай сітуацыі, прыстасоўваюцца да нашых умоваў і абслугоўваюць, абслугоўваюць, абслугоўваюць большасць. У беларусаў склаўся нейкі татальны комплекс абслугоўвання, які не дазваляе помніць пра нацыянальную годнасць. Мы так і не дараслі ў стылі сваёй працы да той, якая вялася, напрыклад, прыбалтамі за савецкім часам. Фактычна, кожны з іх думаў пра тую "цаглінку", якую ён можа зрабіць, каб пасля яна пайшла на будаванне сваёй сапраўды незалежнай дзяржавы. І мы былі сведкамі, гэты падыход даў імклівы плён. Нам трэба навучыцца канструктыўна працаваць у неспрыяльных умовах. Трэба мець мужнасць пісаць беларускія падручнікі (магчыма, у шуфляду), беларускія кнігі (магчыма, у шуфляду). Магчыма, нам не ўдасца іх зараз выдаць, але толькі так - пры патрабаванні да сябе, каб на выхадзе была канкрэтная справа, мы зможам зрушыць гэтую сітуацыю. Не цяпер, дык у блізкай будучыні.

Ці ўсё зрабіў Вярхоўны Савет для паляпшэння моўнай сітуацыі ў Беларусі? (Той Вярхоўны Савет, да якога мы не страцілі даверу.) Не ўсё, мабыць. Адчуваецца ўсё большая гістарычная неабходнасць, каб ён вярнуўся да вынікаў рэферэндуму, ацаніў абноўлены Закон аб мовах, разгледзеў выкананне Закона аб адукацыі. Адэкватная прававая ацэнка ўсяго гэтага яшчэ не дадзена. Трэба яшчэ раз выразна пацвердзіць адзінасць дзяржаўнай беларускай мовы. Нават калі камусьці такое здаецца сімвалічным, для многіх гэта будзе вялікай духоўнай падтрымкай. Ці маю я маральнае права ставіць праблему менавіта так? Прабачце за нясціпласць, але, хутчэй за ўсё, маю, бо мне хапае сілаў каб з годнасцю несці нашу мову без выключэнняў ва ўсіх сітуацыях. У тым ліку і ў прафесійнай дзейнасці, дзе здавалася б ужо амаль немагчыма гэта зрабіць. І ўсё ж можна! Ужо сёмы год я чытаю лекцыі па вышэйшай матэматыцы на беларускай мове І вось тут я ўжо не магу папракнуць ні кіраўніцтва свайго універсітэта (Белдзяржуніверсітэта інфарматыкі і радыёэлектронікі), ні Міністэрства адукацыі, што за гэтыя гады быў нейкі ўціск на мяне ў выбары мовы выкладання. Цяжкасць палягае ў іншым. У наш час (калі мова афіцыйна зроблена бесперспектыўнай і непатрэбнай), мы пастаўлены ва ўмовы, калі няма іншага аргументу, як быць для студэнтаў самым прафесійным лектарам, найлепшым лектарам, любімым лектарам. А гэта надзвычай цяжка. Пасля першых лекцый даводзіцца выходзіць з аудыторыі энергетычна знішчанай. Але затое якія духоўныя і прыемныя стасункі са студэнтамі наступаюць у хуткім часе! Балюча назіраць, калі не верачы ў свае сілы ці не жадаючы ісці супраць плыні, нават нацыянальна-свядомыя выкладчыкі пачынаюць лекцыйны курс з апытання студэнтаў наконт мовы выкладання. Гэты крок у дадзенай палітычнай сітуацыі дае адназначныя наступствы - пераважная большасць будзе за выкладанне па-расейску. І нічога дзіўнага ў гэтым няма, бо на дзяржаўным узроўні ідзе замацаванне непаўнавартасці беларускай нацыі і яе мовы, бо большасць студэнтаў скончылі расейскія школы, бо ў іх ёсць натуральны страх перад новымі невядомымі дагэтуль дысцыплінамі (а тут яшчэ - па-беларуску!). Але ці можа ўсё ж быць чыстым наша сумленне, сумленне грамадзяніна і педагога, пры такім падыходзе? За ўсе 7 гадоў беларускамоўнага выкладання я не назірала агрэсіўнай рэакцыі з боку маладога пакалення, якая б перашкодзіла лекцыйнаму працэсу. Калі ў мінулым годзе дэканат "параіў" правесці апытанне студэнтаў наконт мовы, праз два тыдні пасля пачатку выкладання гэта было зроблена. Вынікі прыемна ўразілі 80 чалавек са 100 выказаліся за працяг навучання матэматыцы па-беларуску. Не мяркую, что гэта выключэнне. Гэта яскраз сведчыць пра тое, што справа ў пазіцыі педагога, ступені нашай свядомасці і кваліфікаванасці. Моладзь жа імкнецца да маральнай альтэрнатывы і духоўнай перспектывы, чаго яна часта не знаходзіць у рэальным жыцці. Але пакуль інтэлігенцыя не ўсвядоміла, што яе роля зараз - усяк фармаваць беларускую нацыю, а не цягнуцца за скалечанымі рэаліямі, мы не будзем мець поспеху. Вы ўжо чулі пра тое, што я маю давер ад ТБМ быць рэдактарам зборніка "З хронікі знішчэння беларускай мовы", які рыхтуецца да 10-годдзя нашай арганізацыі. Гэта будзе ўнікальнае выданне, у якім бяруць удзел мноства нашых слынных навукоўцаў і ў якім сабраная вялікая колькасць фактаў дыскрымінацыі беларускай мовы, пачынаючы з часоў Рэчы Паспалітай і да нашых дзён. Некаторыя матэрыялы проста немагчыма было чытаць спакойна - такі гвалт тварыўся над нашым народам і яго святынямі - мовай. Стагоддзямі! І гэтак жа апантана творыцца зараз. Гэтая кніга будзе яскравым сведчаннем татальнай прымусовай асіміляцыі беларускага этнасу. Хочацца спадзявацца, што замаўчаць пададзеныя факты і адхрысціцца ад іх будзе ўжо складана, а таму выданне зробіць сваю пачэсную справу дзеля нашай свабоды. Падводзячы рысу пад сваім выступленнем, мне хочацца яшчэ раз выразна выказаць думку; акрамя мітынговага змагання з несправядлівасцю і гвалтам, якія творацца з нашай мовай і нацыяй, трэба яшчэ мець мужнасць і сілы для канкрэтнай стваральнай працы ў неспрыяльных палітычных умовах.

Міхась Булавацкі

# Слова да маіх студэнтаў

Для настаўнікаў вясна – крыху сумная пара, бо, акрамя іншага, гэта пара развітання з вучнямі. Пры ўсіх акалічнасцях школьна-студэнцкага жыцця за некалькі год сумеснай працы ўсё ж зрастаешся часцінкамі душ з тымі, каго вучыш, і рваць гэта потым балюча.

Так атрымалася, што сённяшнія пяцікурснікі Магілёўскага фізмата, якім я чатыры гады перадаваў сакрэты настаўніцкага майстэрства, заканчваюць навучанне ўжо без мяне (чытачы "Нашага слова" знаёмыя з сітуацыяй па ранейшых публікацыях). І сваю традыцыйную развітальную прамову я сказаў ім на год раней звычайнага. Але тады яны яшчэ не адчувалі шчымлівага пачуцця развітання, пры якім усе такія словы ўспрымаюцца найбольш востра. Ды і за год, магчыма, шмат чаго забылася. Таму хочацца паўтарыць сваю прамову ў час, калі яна і павінна была прагучаць, праз "Наша слова" – газету, якую частка з іх выпісвае, таму і самі прачытаюць і дадуць прачытаць іншым.

Аднойчы слухаў выступленне прафесара, які гаварыў пра тры тысячы сваіх вучняў, і падумаў аб нейкай ненатуральнасці названага ліку. Гэта як бы маці казала пра тысячу сваіх дзяцей.

Няма сумневу, што гэты прафесар вучыў тры тысячы студэнтаў. Але колькі з іх з гонарам назавуць сябе яго вучнямі? І патлумачаць, чаму яны так лічаць?

Сярод маіх школьных настаўнікаў былі ўсякія. Добрых і паважаных, на шчасце, больш. Але, на няшчасце, не ўсе. Гісторыю выкладаў Жора (так яго звалі па-за ўрокамі). Свой у дошку хлопец для нас, старшакласнікаў, хаця быў у два разы старэйшы за любога з нас. Пасля ўрокаў ён ахвотна гуляў з намі ў "казла" ці "дурня", мог расказаць непрыстойны анекдот, а паданні пра яго амурныя прыгоды, гераінямі якіх былі нават школьніцы, перадаваліся з вуснаў у вусны, як фальклёр. Мы, зялёныя юнцы, глядзелі на яго з захапленнем. Хаця гісторыю не вучылі і не ведалі (цяпер думаю – мо, так і лепш, бо тая гісторыя зараз была б смеццем у мазгах).

Праз колькі год я, ужо студэнт выпускнога курса, сустрэў яго на вуліцы. Ён ішоў у кампаніі настаўнікаў, што прыехалі ў абласны цэнтр на курсы, убачыў мяне, узрадавана павітаўся і прадставіў мяне сваім спадарожнікам як свайго вучня. А мне раптам стала пакутліва сорамна ад таго, што гэты чалавек называе мяне сваім вучнем.

Другі падобны выпадак адбыўся значна пазней. Я жыву ў студэнцкім інтэрнаце, дзе цэлы паверх займаюць сем'і выкладчыкаў. З некаторымі з іх і з іх дзецьмі я сябрую. Дзеці заходзяць у мой пакойчык, кансультуюцца па дамашніх задачах. Разам з тым з дзіцячай непасрэднасцю расказваюць пра цікавыя здарэнні на ўроках, пра сваіх настаўнікаў.

Часта гераіняй іх аповедаў з'яўляецца настаўніца матэматыкі, да якой яны ставяцца скептычна-паблажліва, як звычайна ў народзе ставяцца да чалавека, абдзеленага розумам. Настаўніца любіць нібыта ў адказ на жаданні вучняў расказваць ім пра жыццё, пра розныя пікантныя выпадкі і, нават, пра свайго мужа. Гэтыя недарэчныя расказы займаюць шмат часу на ўроках, на матэматыку часу застаецца мала. Але гэта і вучняў-небаракаў і іх настаўніцу чамусьці задавальняе.

Аднойчы яны прыбеглі з навіной: "А матэматыца сказала, што яна вашая студэнтка!" І мне стала няёмка пад іх усмешліва-дапытлівымі позіркамі.

Я выразна памятаю гэтыя два адчуванні няёмкасці – адзін раз ад таго, што мяне назвалі "сваім вучнем", другі раз ад таго, што мяне назвалі "сваім настаўнікам". Таму я не рызыкну, падобна таму прафесару, сказаць, што ў мяне тысяча вучняў, хаця за 19 год працы ў ВНУ звыш тысячы студэнтаў сустракаліся са мною на занятках. З гэтай тысячы "маімі" сталі чалавек 50, максімум 80. Гэта тыя, хто так ці інакш успрынялі метадычныя ідэі, якія я імкнуўся ім перадаць. Успрынялі і спрабуюць рэалізаваць у сваёй настаўніцкай практыцы, аб чым даведваюся па іх лістах, тэлефанаваннях, гутарках пры сустрэчах. Гэта тыя, з кім мне цікава працягваць кантакты і па-за сценамі ВНУ (хаця, прызнаюся, сённяшняе школьнае жыццё не настройвае на творчы лад).

Якія гэта ідэі? Іх няшмат. Можна нават звузіць іх пералік да дзвюх. А 140 гадзін маіх лекцый лічыць іх разгорткай, дапаўненнем, спробай аналітыка-сінтэтычнага ўсведамлення. Нагадаю гэтыя дзве ідэі.

1) Матэматыка – самая дакладная і самая строгая з навук, "царыца" ўсіх навук і іх "служанка" – пачынаецца з веры ў сцвярджэнні, праўдзівасць якіх ні логікай, ні практыкай не выяўляецца. Гэтае азначэнне, што ніякая іншая навука без веры не існуе. А паколькі навука адлюстроўвае досвед чалавечага жыцця, значыць не існуе жыцця без веры.

2)Разумна арганізаваная сістэма адукацыі, якая грунтуецца на прызнанні разнастайнасці чалавечых індывідуумаў, мае стратэгічную мэту: чалавек свабодны, разумеючы пад свабодай усвядомленую чалавекам неабходнасць жыць і дзейнічаць у атачэнні законаў, што аб'ектыўна існуюць у прыродзе і грамадстве. Чалавек свабодны, а не чалавек гараманічны ці ўсёбакова развіты, як гэта мроілася стваральнікам савецкай школы.

Вера і свабода – у гэтых двух словах можна шукаць сэнс жыцця.

Вы спытаеце цяпер: калі ўсё астатняе на маіх лекцыях – неістотнае дапаўненне названых ідэй, то чаму я ўсё ж патрабавальна ставіўся да гэтых ведаў?

Названыя ідэі ствараюць падмурак. Але чалавек жыве не ў падмурку, чалавек жыве ў будынку, пабудаваным на падмурку. І яшчэ вельмі хочацца, каб мае вучні станавіліся прафесіяналамі.

Прафесіянал у маім разуменні – гэта такі спецыяліст у сваёй сферы дзейнасці, які можа пракарміць сябе і сваю сям'ю без дзяржаўнай зарплаты.

Калі чалавек можа шыць добрыя боты, а яго чамусьці не возьмуць на працу ў дзяржаўную шавецкую майстэрню, ён будзе шыць боты дома. І людзі будуць заказваць боты яму, а не ў майстэрні, калі ён – прафесіянал. Гэтак і з настаўнікам, асабліва з настаўнікам матэматыкі. Не, я зусім не мару, каб мае выпускнікі сядзелі дома і вучылі матэматыцы ў хатніх умовах. Але я хачу, каб чалавек не баяўся страціць дзяржаўную службу, адчуваючы за сабой такі "тыл".

Настаўнік- прафесіянал – гэта чалавек з высокай самаацэнкай і самапавагай. Такі чалавек не будзе моўчкі глытаць абразы хама-чыноўніка. Такі чалавек не будзе кланяцца і ліслівіць перад дурнем-начальнікам, не будзе выконваць яго прыхамці. Чалавек, які мае ўласныя важкія погляды на сваю прафесійную дзейнасць, спакойна выказвае і адстойвае іх, нявыгадны дурному начальніку, які зазвычай клапоціцца толькі пра добры выгляд, а не пра добрую сутнасць. А з дурных начальнікаў сёння хоць агарод гарадзі! На жаль, і ў адукацыйных колах. Таму мой выпускнік павінен быць гатовым да пазадзяржаўнага заробку, бо той, хто кланяецца, выдыгае перад дурнем пры пасадзе, баючыся страціць крыху прыкормнае месца, той, з каго па гэтай прычыне пачынаецца ўсякая подласць, той — не прафесіянал. І матэматыцы ён, як трэба, не навучыць.

Тыя ж, хто хоча яе засвоіць (а хочуць шмат) і хто мае крыху вольных грошай (а прафесіяналы маюць), пойдуць шукаць настаўніка-прафесіянала. Я хочу, каб знаходзілі. Я мару аб тым часе, калі бацькі беларускіх дзяцей, гаспадары на зямлі беларускай, вернуць сабе права выбіраць настаўнікаў сваім дзецям, права, якім яны карысталіся сотні гадоў з моманту стварэння першых брацкіх школ і якое страцілі, трапіўшы пад гнёт Расеі.

Я хочу, каб прафесіяналы ў выкладанні матэматыкі былі, бо матэматыка – навука стратэгічнай вартасці для дзяржавы. А я хочу жыць у нармальнай дзяржаве. Я хочу жыць на роднай зямлі сярод прафесіяналаў. Чаго і вам зычу.

У добры шлях!





**Валянцін Грыцкевіч (Санкт-Пецярбург)**

# ПРАБЛЕМЫ БЕЛАРУСКІХ ДЫЯСПАРАЛЬНЫХ СУПОЛАК У РАСЕІ

***27 сакавіка г.г. у Маскве незалежна ад Амбасады Рэспублікі Беларусь па ініцыятыве Маскоўскага таварыства беларускай культуры і Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Пецярбургу адбыўсяУстаноўчы з'езд беларусаў Расеі. На з'ездзе, які адбыўся ў памяшканні Цэнтральнага Дома Літаратараў на вул. Герцана, д.53, быў абмеркаваны статут Міжрэгіянальнага аб'яднання беларусаў Расеі як самакіраванага грамадскага аб'яднання. Асноўнымі задачамі Міжрэгіянальнага аб'яднання з'яўляецца захаванне нацыянальнай культуры і мовы беларускага народа ў Расейскай Федэрацыі, спрыянне захаванню дзяржаўнасці гістарычнай радзімы Беларусі, развіццё беларускай адукацыі, навуковых даследванняў, народнай творчасці, мастацтва ў Расеі, супрацьдзеянне праявам шавінізму, нацыяналізму, распальванню нацыянальнай і рэгіянальнай варожасці. Апроч прадстаўнікоў беларускіх грамад Масквы, Пецярбурга, Іркуцка, Краснаярска, у працы з'езду прынялі ўдзел дэпутаты Вярхоўнага Савета РБ 13-га склікання Ст.Шушкевіч і С.Домаш, старшыня Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына" г.Сурмач.***

***З'езд зацвердзіў статут Аб'яднання і абраў Раду аб'яднання на чале з сп. Генадзем Лехам.***

***Валянцін Грыцкевіч, С.-Пецярбург.***

*(Падаём даклад Валянціна Грыцкевіча на з'ездзе.)*

Сярод першачарговых задач нацыянальнай палітыкі дзяржавы варта назваць стварэнне ўмоў для вольнага і дэмакратычнага развіцця ўсіх этнасаў, у тым ліку беларусаў, якія насяляюць Расію. Беларусаў жа ў Равсеі налічваецца не менш за 1200 тысяч. Гэта самая буйная з усіх замежных дыяспараў беларусаў у свеце. У Расеі існуюць беларускія дыяспаральныя суполкі, зацікаўленыя ў адраджэнні культуры, мовы, нацыянальнай свядомасці і традыцый беларусаў. Іхняя дзейнасць цесна звязана паперш, з культурнай і моўнай палітыкай на іхняй гістарычнай радзіме, і па-другое з падобнай жа палітыкай тут у Расеі.

Як правіла, беларускія суполкі ў Расеі (да прыкладу, як Беларуская грамадска-культурнае таварыства ў Пецярбургу, якое я маю гонар прадстаўляць на з'ездзе) аб'ядноўваюць беларусаў незалежна ад іхніх палітычных поглядаў, партыйнай прынадлежнасці, сацыяльнага стану, веравызнання. Беларусы перасяляліся ў Расею здаўна, не пазней за ХУ ст. Мне даводзілася спецыяльна вывучаць гістарычныя крыніцы па гэтай тэме, і я магу сказаць, што асабліва моцным быў прыток беларусаў у Маскоўскую дзяржаву пад час інфлянцкай вайны ХУІ ст., войнаў Расеі з Рэччу Паспалітай ў ХУІІ ст. і Паўночнай вайны пачатку ХУІІІ ст., калі маскоўскія войскі прымусова перасялялі сотні тысяч беларусаў у Расею. Перасяленні пасіліліся і пасля ўзброеных супраціваў прыяднанню Беларусі да Расеі і паўстанняў XIX ст. Найбольш масавымі былі перасяленні беларусаў сюды ў ходзе рэпрэсій часоў камунізму, індустрыялізацыі, асванення цалінных зямель, вярбоўкі на лесараспрацоўкі Поўначы і на навабудовы.

Але беларусы пастаўлялі не толькі працоўную сілу ў Расею. З другога пакалення беларусаў былі першая расейская імператрыца Кацярына I усяўладны палітычны дзеяч А. Меншыкаў, ваенныя міністры XIX ст. В.Сухазакет, П.Ваноўскі, міністр фінансаў Ф.Урончанка, а ў XIX ст. міністры савецкага ўраду К.Мазураў і А. Грамыка, шмат ваеначальнікаў якія дапамагалі царызму заваёўваць Туркестан, ваяваць з туркамі і г. д. Шмат беларусаў працавала ў расейскай навуцы, таму што царызм закрыў вышэйшыя навучальныя ўстановы на Беларусі пасля тлумлення паўстанняў супраць яго. "Вымыванне мазгоў" з Беларусі ў Расею узбагачала патэнцыял расейскай навукі.

Традыцыя беларускіх культурных суполак у Расеі дасягае сярэдзіныXIX ст., калі ў Пецярбургу па чарзе стварыліся "Крывіцкі вязок", пазней "Гоман", на пачатку XX ст. Беларускі літаратурны гурток студэнтаў Санкт-Пецярбургскага універсітэта", а потым і іншыя. Існавалі такія таварыствы і ў 20-я г.г. у розных кутах Расеі, але хваля чырвонага тэрору знішчыла іх, і адраджацца яны сталі толькі ў часы перабудовы. Найбольш старыя і трывалыя сярод іх Таварыства беларускай культуры імя Фр. Скарыны у Маскве і Беларускае грамадска-культурнае таварыства ў Пецярбургу, але паспяхова дзейнічаюць і іншыя суполкі, прадстаўнікі якіх прымаюць удзел у гэтым з'ездзе.

Цяжкасці ў захаванні беларускай прысутнасці ў Расеі ўзнікаюць з-за індэферэнтнасці значнай колькасці тутэйшых беларусаў, з-за вялікай іхняй дэнацыяналізацыі. Пашырэнню нацыянальна-культурнай дзейнасці падобных суполак у краіне перашкаджае цяжкае эканамічнае становішча суайчыннікаў. Слабая матэрыяльная база культурна-асветніцкай працы суполак тлумачыцца сціплай падтрымкай іх з боку мясцовых уладаў, абыякавасцю да гэтай справы з боку ўладаў Беларусі, якія практычна не выконваюць салідная праграмы "Беларусы ў свеце", прынятай на дзяржаўным узроўні папярэднім урадам у 1993 г.

Застаецца ў сіле выснова групы маскоўскіх экспертаў, зробленая яшчэ ў 1993 г. па матэрыялах сацыялагічнага апытання на I Кангрэсе украінцаў Расеі: "Дзеянням уладавых структур усё яшчэ ўласцівыя элементы аднадзённага разліку, старых, дагматычных пазіцый і ілюзій, падвойных стандартаў і прыхаваных задумак, палітычных імправізацый і папулізму, гандлю, якія апраўдваюцца часта аргументамі выключнасці і надзвычайнасці сітуацыі, сусветны палітычны досвед і дадзеныя навуковых даследванняў выкарыстоўваюцца надта недастаткова".

Сведчаннем гэтаму могуць служыць наступныя факты: у Расеі амаль цалкавіта адсутнічаюць беларускія нацыянальныя перыядычныя выданні ( апроч некалькіх самаробных), няма беларускіх школ (хоць яны існавалі ў 1920-я гады ў месцах кампактнага пражывання беларусаў у Сібіры і на Далёкім Усходзе) беларускіх бібліятэк, культурных установ. Намаганні пецярбургскіх і маскоўскіх беларусаў не прывялі да стварэння спецыялізацыі ў тутэйшых ВНУ, хоць у іх выкладаюцца такія экзатычныя мовы, як суахілі або кхерскі. Няма ў Расеі радыёвяшчання беларускай мовай.

Для супастаўлення: у суседняй з Беларусяй Польшчы, дзе жыве 300 тысяч беларусаў – у чацвяра менш, чым у Расеі, існуе варшаўскае і беластоцкае беларускія радыёвяшчанні, выходзіць ужо 44 гады тыднёвік беларусаў у Польшчы "Ніва" на 12 палосах (дарэчы ў Вільні выходзіць беларуская газета "Рунь") ёсць беларускія школы, і шэсць кафедраў беларусістыкі ў ВНУ 5-ці гарадоў Польшчы. Пры гэтым галаслоўных дэкларацый аб братэрстве беларускага і польскага народаў там нешта не чуваць.

Беларускае радыёвяшчанне існуе ў Летуве, дзе беларусаў налічваецца 50 тысяч і Эстоніі існуе іх 25 тысяч. Беларускія школы працуюць у Латвіі, дзе беларусаў – 100 тыс. і Летуве. У Летуве існуе аддзяленне пры педагагічным інстытуце, якое рыхтуе выкладчыкаў беларускай мовы.

Але ўсё гэта яшчэ можна пераважыць. Самай галоўнай праблемай існавання і ўстойлівасці беларускай дыяспары ў Расеі, як і ва ўсіх іншых краінах свету, захавання, яе як складовай часткі свайго этнасу з'яўляецца дыскрымінацыя беларускай мовы ў дзяржаўных маштабах у Рэспубліцы Беларусь.

Не гледзячы на працяглую паланізацыю і русіфікацыю Беларусі, этнічнае ядро яе нацыі трывала вылучала нацыянальную эліту – носьбітаў нацыянальнай ідэі і барацьбітоў за яе рэалізацыю ў жыццё. Беларусізацыя пачалася пад час існавання Беларускай Народнай Рэспублікі (1918), працягвалася, як сродак умацавання савецкай дыктатуры, у 20-я годы. Спроба прыпыніць працэс русіфікацыі Беларусі пасля смерці Сталіна насіла характар палітычнага спектакля, бо моўная асіміляцыя рэзка ўзмацнілася з сярэдзіны 60-х гадоў.

Працэс ЛІНГВАЦЫДУ – мэтанакіраванага і асэнсаванага, свядомага выцяснення з абіходу, гэта значыцца, практычнага знішчэння беларускай мовы, як адной з вядучых азнак этнасу ў Беларусі быў неабходнай умовай для далейшага ЭТНАЦЫДУ – ліквідацыі дадзенага этнасу, як асаблівай культурна-гістарычнай супольнасці або дэнацыяналізацыі этнасу Другім інструментам для дасягнення гэтай мэты з'яўляецца МНЕМАЦЫД. Я прапаную гэты назоў для азначэння мэтанакіраванага знішчэння калектыўнай памяці Беларусі – ісціннага вобразу яе гісторыі, які спецыяльна вывучаю. Мнемацыд гэты ў нашых умовах заключаецца ў прапагандзе асіміляцыі беларусаў рускімі, аўтарытарнай улады, атэізацыі і ізаляцыянізме, асабліва ў школьнай і універсітэцкай адукацыі. Лепшым паказальнікам лінгвіцыду і мнемацыду ва ўмовах Беларусі з'яўляюцца ліквідацыя пасля другой сусветнай вайны выкладання беларускай мовы ў вышэйшых навучальных установах і выкладанне атручанай імперскім духам гісторыі, як у ВНУ, так і ў сярэдняй школе. Падставай ад паступлення ў ВНУ залежаў лёс шматлікіх выпускнікоў сярэдняй школы, бацькі вымушаны былі адмаўляцца ад таго, каб іхнія дзецi навучаліся ў школе на роднай мове.

Гэта дазволіла прыхільнікам русіфікацыі Беларусі хлусліва сцвярджаць, нібыта адмова бацькоў вучыць дзяцей у беларускіх школах адбываецца добраахвотна. Але ж гэта парушыла 3 параграфы 26 артыкула Усеагульнай Дэкларацыі правоў чалавека, які быў прыняты на 3-ій сесіі Генеральнай Асамблеі ААН ("Бацькі маюць права прыярытэту ў выбары віду адукацыі для сваіх малалетніх дзяцей").

Дзякуючы перабудове 80-х гадоў прыхільнікі адраджэння беларускай мовы ў абіходзе здолелі дамагчыся таго, што беларуская мова 26 студзеня 1990 г. была ўзгалошана афіцыйнай мовай Рэспублікі Беларусь. Пачалася новая хваля беларусізацыі, забяспечаная законамі Рэспублікі. Згодна ім побач з беларускаю моваю для вывучэння ва ўсіх навучальных установах абвяшчалася руская і адна з замежных моваў.

Здавалася б, чаго яшчэ было чакаць? Але з 1994 г. становішча карэнным чынам змянілася. Падобна да таго, што з гэтага часу Беларусь становіцца лабараторыяй, у якой адбываецца эксперымент па адраджэнні таталітарызму. Сацыялізм ужо пабудаваны. Працягваецца характэрная для яго палітыка лінгвіцыду і мнемацыду. Як не прыгадаць даўнія словы М.Багдановіча аб тым, што паняцце "нацыя" і "дэмакратыя" ў выпадку Беларусі супадаюць.

Пачаўся свядомы адыход ад ужывання беларускай мовы ў справаводстве і адукацыі. Магчыма, распаўсюджванне яе разглядалася ўладаю, як адзін з індыкатараў адмовы ад прыярытэту даўняй савецкай сістэмы і царскага рэжыму, уніфікаваўшы насельніцтва сваёй разлеглай краіны для больш зручнага кіраўніцтва аднастайнай масаю падданых. Яшчэ 1 снежня 1994 г. першы прэзідэнт Рэспублікі на сесіі Гомельскага гарсавета растлумачыў дэпутатам, чаму не карыстаецца беларускай мовай: "Потому что на белорусском языке нельзя сказать что-нибудь великое. Белорусский язык – бедный язык. В мире существуют только два великие языка –-это английский и русский".

Выкарыстаўшы ўладу, новы рэжым правёў рэферэндум у траўні 1995 г., згодна вынікаў якога рускай мове быў прыданы статус роўнай з беларускай (нібыта гэтага па сутнасці, фактычна не было раней). Па сутнасці беларуская мова пераўтварылася з дзяржаўнай зноў у другаступеневую. Газеты з беларускамоўных сталі пераўтварацца ў двухмоўныя, а двухмоўныя ў цалкам рускамоўныя. Тэлебачанне, радыёвяшчанне і выкладанне ў ВНУ сталі практычна рускамоўнымі.

За гады, што прайшлі з рэферэндуму, былі ліквідаваны беларускамоўныя дзіцячыя садкі, шматлікія класы, школы. Колькасць школьнікаў, якія паступілі ў класы з беларускай моваю навучання, скарацілася ў два с паловаю разы. У Менску з 130 беларускамоўных школ да лета 1998 г. засталося 17. У Гародні няма аніводнай беларускамоўнай школы. Бацькам часта адмаўляюць у іхнім законным праве вучыць дзяцей на роднай мове. Для аспірантаў Акадэміі навук адменены залік па беларускай мове. На Навапалацкай ЦЭЦ загадана весці дакументацыю выключна на рускай мове (згодна загаду дырэктара ЦЭЦ Лебедзева ад лета 1997г.). Прысягу маладога воіна Беларусі зачытваюць толькі па-руску. Міліцыя б'е і арыштоўвае людзей за размову на беларускай мове.

Да чаго прыводзіць згубная моўная палітыка сучаснага беларускага ўраду, паказваюць лічбы. Прапарцыянальнасць выданняў на беларускай мове складала ў 1987 г. 7 адсоткаў, у 1995 г. 12,5%, а ў 1997 г. ужо 5,5% — менш, чым у апошнія гады СССР! (прыклады прыводзяцца з арт. Я. Войніча "Прыгоды беларускіх выданняў" (Чырвоная змена. – 11 сакавіка 1989 г. – С. 12; і з афіцыйнага статыстычнага даведніка "Рэспубліка Беларусь в цифрах" (Мн.,1998. - С.28-29, выданне на рускай і англійскай мовах – адзіных "вялікіх моваў свету!).

Для параўнання: у 1925 г. з накладаў кніг і брашур на Беларусі на беларускай мове было 68,5%. Гадавы наклад беларускіх газет у 1986 г. склаў 31,5%, у 1995 г. 5,7%, у 1997 г. 5,6%.

У этыцы існуе прынцып спачування. Ён пачынаецца з таго, каб змагчы паставіць сябе на месца іншага і паглядзець на свет ягонымі вачыма. Мне даводзілася распавядаць старшакласнікам двух пецярбургскіх школ аб сітуацыі з выкладаннем роднай мовы у Беларусі. На маё пытанне да юнакоў і дзяўчат: "Як бы вы адносіліся да таго, каб у аб'яднанай Беларуса-Расеі вас пераводзілі на беларускую мову навучання, давалі чытаць пераважна беларускія кніжкі, паказвалі б толькі беларускамоўныя тэлеперадачы?" я пачуў гул абурэння.

На Беларусі ж падобная рэакцыя моладзі ўладамі не ўлічваецца. Перарабляюцца падручнікі: даведнікі, энцыклапедыі на стары савецка-імперскі манер, перапісваецца на той жа манер гісторыя беларусаў.

Пераследуецца нацыянальная сімволіка. Вяртаюцца з нябыту рытуалы камуністычных часоў, у прыватнасці, уведзены пасады намеснікаў кіраўнікоў прадпрыемстваў па інфармацыйнай (г.зн.па палітычнай) часткі, і па працы з моладдзю. Прыцясняюцца правы на адукацыю і інфармацыю і нацыянальных меншасцей, у прыватнасці, польскай. Прапагандуюцца ідэі аб'яднання славянскіх і праваслаўных народаў, па сутнасці страціўшыя сваю моц яшчэ ж з пачаткам першай сусветнай вайны. Гісторыя ведае тры прыклады існавання дзяржаў на аснове славянскага адзінства: Расейскую імперыю ( і яе мадыфікацыю ў выглядзе СССР), Паўднёваславію і Чэхаславаччыну. Аніводная з іх, па сутнасці, не ацалела, бо яны падпарадкаваліся ненатуральным правілам. Невыпадкова А.І.Салжыніцын папярэдзіў вялікаросаў: "Няма ў нас моцы на імперыю!" Тым больш, што планаванае аб'яднанне Расеі і Беларусі можа выклікаць незадавальненне іншых, неславянскіх і неправаслаўных этнасаў Расеі і, як вынік, распад Расейскай федэрацыі.

*(Заканчэнне ў наступным нумары).*





# 450-ГОДЗЬДЗЕ ДРУКУ НА БЕЛАРУСКАЙ ЗЯМЛІ

## Угодкі выхаду "Малой падарожнай кніжкі" Доктара Ф.Скарыны

### Даклад доктара Вітаўта Тумаша на 10-ай сустрэчы беларусаў Паўночнае Амэрыкі ў верасьні 1972 году

*(Заканч. Пачатак у № 18).*

Як з анэксыяй беларускіх земляў савецкія аўтары Масквы зразу-ж прыпісваюць і выдатнейшыя падзеі іх гісторыі, яскрава можна бачыць на прыкладзе тае-ж Смаленшчыны. У савецкім друку цяпер, як правіла, пішацца, што ўвесь імпэт нямецкае крыжацкае навалы ў біцьве 1410 году пад Грунвальдам затрымала ды далейшы ход бою гэтым наканавала не геройчная стойкасць і адвага трох смаленскіх беларускіх палкоў, але трох смаленскіх палкоў расейскіх, хоць кожнаму ведама, што на палях Грунвальду ніякіх войскаў Масквы, ніякіх расейскіх палкоў ня было. Ды й сам Смаленск тады яшчэ ня быў захоплены Масквой, але з усімі іншымі землямі Беларусі ўваходзіў у склад Вялікага Княства Літоўскага.

Калі гісторыю беларускага народа савецкія казённыя аўтары абядняюць на шмат выкідаючы зь яе ўсё тое, што адбывалася на тых правінцыяльных землях Беларусі, якія сёньня ня ў межах БССР, дык што казаць, калі гэтае-ж робіцца зь гістарычнаю сталіцаю Беларусі, Вільняй, на той толькі аснове, што ад 20-ці колькіх гадоў Вільню Масква ўлучыла ў межы свае каланіяльнае правінцыі – Жамойцка-летувіскае ССР. Гэта ня што іншае, як ненасытная спроба абезгалоўленьня гісторыі беларускага народу ў найдаўжэйшую яе пару, пару Вялікага Княства Літоўскага. Гэта не Пракрустава адсяканьне ўжо ног, але – самое галавы.

Вось пры гэткім культурна-мэханічным трактаваньні партыйнай гістарыяграфіяй гісторыі беларускага народу савецкім гісторыкам даводзіцца цяпер пісаць, што не ў Беларусі, але Жамойці-Летуве, бо –ж у Вільні, беларускія кнігі друкаваў доктар Скарына, а па ім слаўны Пётра Мсьціславец, знакамітая Друкарня Дому Мамонічаў ды іншыя беларускія друкары, што ў Жамойці-Летуве складаўся ды выдаваўся Літоўскі Статут, а ня гэтак яшчэ даўно выходзіла там і "Наша Ніва", — ды розныя падобныя нябыліцы. Пісаць гісторыю беларускага народу ды бяз гісторыі нацыянальна-духовага цэнтру краю, сталічнае Вільні, гэта такая –ж недарэчнасьць, як калі-б нехта пробаваў пісаць гісторыю старажытнае Грэцыі ды бяз гісторыі Афінаў.

На гістарычнай арэне Вільня, як ведама, зьяўляецца на пачатку XIV стагодзьдзя ды зразу ў ролі сталічнага цэнтру, Сталіцаю дзяржавы стала яна ў пару, калі Вялікае Княства Літоўскае, пасьля кансалідацыі свае пачатковае тэрыторыі на прасторы Горадня-Ваўкавыск-Наваградак, сваю ўладу пашырыла й на ўсходнія ды паўночныя прасторы Беларусі ды хутка сваімі межамі ахапіла ўсе беларускія землі.

Пазьнейшая сталічная веліч Вільні ды яе багацьце вырасьлі толькі на гаспадарчай базе вялікае прасторы і жыхарства беларускае нацыянальнае тэрыторыі. Да духовага блеску й свае гістарычнае славы яна ўзьнялася толькі на аснове культурных традыцыяў народу, што ўжо ад стагодзьдзяў, дзякуючы ў вялікай меры хрысьціянству, меў сваю высокую культуру ды дасканальна разьвітую мову пісьменнасьці.

Цяпер, з пазбаўленьнем Вільні яе спрадвечнае гістарычнае ролі - быць сталіцай беларускае зямлі – звузіліся зразу й пэрспэктывы разьвіцьця места, крыльлі яго росту падсечаныя. У Менску ў паваенным часе лік жыхароў узрос больш як у чатыры разы. Нарастае там шпарка ўжо другі мільён. Тымчасам у Вільні, пры вызначанай ёй цяпер Масквой сьціплай ролі адміністрацыйнага савецкага цэнтру летувіска-жамойцкіх толькі раёнаў – былых правінцыяльных паветаў Вялікага Княства – лік жыхароў, у прыраўнаньні з часам даваенным, ня змог і падвоіцца.

Ды, калі ад былое паўтысячагодняе сталіцы Беларусі адабраныя сяньня пэрспэктывы на вялікую будучыню, ніхто ніколі ня ў сіле адабраць Вільні не вялікае гістарычнае славы, славы палітычна-дзяржаўнага й культурна-нацыянальнага цэнтру Беларусі ды яе магутнае калісьці дзяржавы, Вялікага Княства Літоўскага, славы места калыскі друку беларускай зямлі й усяго ўсходу Эўропы. З балонак гісторыі места й гісторыі беларускага народу гэтых вялікіх заслугаў Вільні не сатрэ час, не схаваюць іх і сучасныя савецкія партыйныя гісторыкі. Вось гэта, між іншым, прыгадваюць нам сялетнія скарынінскія ўгодкі друку.

### 3

З угодкамі выхаду ў 1522 годзе ў Вільні МАЛОЕ ПАДАРОЖНАЕ КНІЖКІ доктара Скарыны зьвязаныя й важныя іншыя ўгодкі – 450-годзьдзе ад зьяўленьня першага беларускага друкаванага календара. Каляндар гэты гэта складовая – апошняя пятая – частка ПАДАРОЖНАЕ КНІЖКІ.

Фармату, як і ўся кніжка, малога, каляндар Скарыны мае 20 балонак (40 бачынаў) друку асобнае свае нумарацыі. Першая бачына, загаловачная, аздоблена дрэварытнай, складзенай з чатырох,расьліннага арнамэнту заставіцай, рамкай. Далей на 12 разваротах, памешчаны памесячны каляндар праваслаўных сьвятаў і сьвятых "па ўставу Эрузалімскае царквы", з дадаткам календарна-астранамічных інфармацыяў. На 15 бачынах канцавых надрукавана ПАСХАЛІЯ – даведнік пра час рухомых і некаторых нярухомых сьвятаў на гады 1522 – 1542, пра час пастоў, пра зацьменьні сонца, месяца, ды розныя іншыя.

Унізе бачыны ёсьць замыкальная даведка аб тым, што "Сьвятцы й пасхалію" выдаў доктар Францішак Скарына ў "слаўным месьце Віленскім". Дык з рэдакцыйна-выдавецкага ды графічна-друкартскага гледзішча каляндар афармлены як друк самастойны. Сяньня ведама, што й пашыраўся ён ня толькі з ПАДАРОЖНАЙ КНІЖКАЙ, але як і іншыя яе часткі, і выданьнем асобным.

Каляндар Скарыны, як бачым, не каляндар вылучна рэлігійны, што падае толькі сьвяты на паасобныя дні году, але й каляндар сьвецкі, астранамічны. У ім "неамыльна напісаныя" доктарам Скарынам інфармацыі пра поўныя й частковыя зацьменьні – "гібелі" – сонца й месяца, пра "бег" сонца праз 12 сузор'яў задыяку, пра рух зораў "блудзяшчых", або плянэтаў, пра дні зраўнаньня дня з ночай і даты найдаўжэйшага й найкарацейшага дня й ночы году, пра даўжыню дня й ночы ў паасобныя дні кожнага месяца азначаную "на нашу зямлю" самым доктарам Скарынам, ды некаторыя іншыя.

Інфармацыі паказваюць на добрую веду рэдактара-выдаўца астранамічных асноваў календара, што ў доктара мэдыцыны таго часу рэч і зразумелая, бо на астраноміі апіраецца астралёгія, паказаньнямі якое лекары ў тую пару шырока карысталіся пры вызначэньні дыягнозу, прагнозу ды спосабу лячэньня цяжка хворых сваіх пацыентаў. Вось дзеля гэтага лекары тыды вывучалі астраномію й для сваіх практычных прафэсыйных патрэбаў. Рух "зьвёзд блудзячых", плянэтаў, для патрэбаў лекарскае свае практыкі даводзілася напэўна сачыць і доктару Скарыну.

Скарынаў каляндар пачынаецца зь верасьня, канчаецца ж месяцам жнівенем, і гэта таму, што календарны год ягонымі часамі на землях Беларусі, як і ўва ўсім Вялікім Княстве Літоўскім, пачынаўся не, як цяпер, 1-га студзеня, але чатыры месяцы пазьней, 1-га верасьня. Віленская вялікакняжая дзяржаўная канцылярыя й у сваіх актавых запісах, і ў дыпляматычным ліставаньні, верасьнёвага пачатку году трымалася да палавіны XVI стагодзьдзя.

Першае сьвята, аб якім Скарына ў сваёй ПАСХАЛІІ дае даведку ў які дзень тыдня у дадзеным годзе яно будзе прыпадаць, гэта Каляды 1522 году. З гэтага вынікае, што каляндар быў надрукаваны перад гэтымі Калядамі. З друку найхутчэй паказаўся ён чатыры месяцы раней, каля 1 верасьня, тагачаснага пачатку каляндарнага году ды месяца, зь якога Скарынаў каляндар пачынаецца.

Каляндар Скарын – каштоўная вельмі памятка друку "залатое пары" беларускае культуры. Дасьледнікам каляндар цікавы й як рэдкая вельмі, ведама ў вадным толькі камплектным экзэмпляры, кніжыца першых дзесяцігодзьдзяў эўрапейскага друку, і як першы друкаваны беларускі каляндар. Гэта цікавае вельмі выданьне для гагіёграфаў і гісторыкаў царквы ў Беларусі сваімі пададзенымі – і не пададзенымі – сьвятамі й сьвятымі, гісторыкам жа астраноміі нашага краю сваймі, вызначанымі доктарам Скарынам "на нашу зямлю" астранамічнымі дадзенымі. Мовазнаўцы на каляндар Скарыны, не ведамую ўраней ягоную частку, зьвярнулі ўвагу даўно, асабліва на беларускія назовы месяцаў календара што пададзеныя побач царкоўнаславянскіх, ды на ўсю іншую календарную тэрміналёгію.

Выдаваў доктар Скарына свой каляндар сваім праваслаўнае веры суродзічам. Ды прызначыў ён яго не для патрэбаў царкоўных, але для шырэйшага народнага сьвецкага ўжытку. Як ягоны каляндар успрынялі ягоныя суродзічы, найлепш пра гэта сьведчыць факт, што з усіх каляндароў пашыраных на Бацькаўшчыне доктара Скарыны, захавалася колькі ўсяго балонак адзінага календара. Яны цяпер перахоўваюцца ў Публічнай бібліятэцы Ленінграду. У цэласці каляндар мог захавацца толькі на чужыне, у Даніі, у Каралеўскай бібліятэцы Капэнгагі.

Каляндар Скарыны – першы друкаваны каляндар ня толькі на землях Беларусі, але й на прасторы ўсяго ўсходу Эўропы. Прайшло 180 гадоў пакуль паказаўся першы друкаваны расейскі каляндар. Надрукаваны ён быў у 1702 годзе. І гэты каляндар друкаваўся яшчэ не на тэрыторыі Расеі, а за яе межамі, у Галяндыі, у Амстэрдаме. Склаў яго й выдаў на заказ цара Пётры I ведамы друкар-выдавец і рэфарматар кірыліцы, беларус з Случчыны, Ільля Капіевіч-Капіеўскі.

Віленскі беларускі каляндар 1522 году прыклад таго, як культурна-духовыя патрэбы свайго народу друкару Францішку Скарыну ляжалі на сэрцы. Ён востра іх адчуваў, пра іх думаў, і, колькі было ў яго магчымасьцяў і сілаў, намагаўся іх і задаволіць. Як пры перакладзе й друку беларускае Бібліі ў Празе, гэтак і пры укладаньні ў Вільні календара, галоўныя матывы яго-нае выдавецкае працы былі народна-грамадзкія, патрыятычныя.

### 4

450 ўгодкі першага беларускага друкаванага календара мімаволі кіруюць увагу на пытаньне: як справа з календаром у народу, калісьці піянера ў гэтай галіне на ўсім усходзе Эўропы, сяньня?

Календары, найперш календары-кніжкі, выданьні асабліва шырокага народнага ўжытку. Добра зрэдагаваны, зьместам да патрэбаў народу датарнаваны каляндар, гэта народная энцыкляпэдыя блізу штодзённага практычнага карыстаньня. Дзеля шырокае народнае ўжытковасьці календаром ці раз выпала важная гістарычная роля ў жыцьці паасобных народаў. Календары чэскія, паўдзённаславянскія, ірляндзкія, мелі вялікае значэньне ў адраджэньні гэтых народаў, у іх змаганьні за нацыянальнае вызваленьне за само існаваньне.

Важнае культурна-нацыянальнае значэньне мелі календары й у гісторыі народу беларускага. Пасьля каляндара Скарыны шмат беларускіх каляндароў друкавалася ў стагодзьдзях XVI –XVII. Пасьлей, з заняпадам, дзеля паланізацыі беларускага друку, а ў XIX стагодзьдзі й дзеля забароны гэтага друку царскім урадам, на землях Беларусі выдаваліся календары чужамоўныя. Некаторыя зь іх зьмяшчалі важныя, датычныя да беларускага народу, яго гісторыі й быту, матэрыялы, а нават і беларускія літаратурныя творы.

Пасьля скасаваньня забароны беларускага друку, ад 1910 году, беларускія календары друкуюцца ўжо кожны год шпарка ўзрастаючы тыражамі. Выдавала іх – у той самай Вільні дзе выйшаў беларускі каляндар першы, Скарынаў, — газэта "Наша Ніва" двумя паралельнымі выданьнямі, кірыліцай і лацінай. Сваім ідэйным народна-дэмакратычным накіраваньнем, сваім падборам матэрыялаў датарнаваных да практычных патрэбаў народу, найперш вёскі, ды, асабліва, сваёй беларускай мовай, календары "Нашай Нівы" хутка здабылі вялікую папулярнасць у народзе.

І ў гады Першае Сусьветнае вайны, пры нямецкай акупацыі земляў Заходняе Беларусі, у Вільні штогод выдаваліся беларускія календары. Друкавалі іх выдавецтвы "Сваяк", "Зьніч", "Гоман", "Беларуская выдавецкая суполка". Па колькі беларускіх календароў у год выходзіла – календароў настольных-кніжак, насьценных, адрыўных, — у Вільні й праз увесь час міжваеннага дваццацігодзьдзя не зважаючы на ўсе прасьледы беларускага друку польскай адміністрацыяй ды прычэпкі польскай цэнзуры з чыстымі канфіскатамі. Тыражы найбольш у прадажы ходкіх віленскіх календароў адрыўных даходзілі тады да 50 000.

Іншая доля прыпала беларускім календарам у БССР. Хоць, як паказала практыка "Нашае Нівы", у народзе было вялікае запатрабаваньне на свае календары, першы беларускі каляндар у БССР, каляндар на 1924 год быў выданы толькі на пяты год існаваньня рэспублікі. Ды ўжо ў наступным дзесяцігодзьдзі, у часы разгрому Масквою беларускага культурна-нацыянальнага жыцьця ў БССР, выдаваньне беларускіх календароў партыя зноў спыніла.

Друкаваць беларускія календары кніжкі, або календары адрыўныя, у БССР не дазваляецца й у паваенныя гады. Для беларускага народу каланіяльная ўлада пакідае толькі адну магчымасьць: карыстацца календарамі расейскімі. Дык календары, што масавымі тыражамі друкаваліся пры расейскім рэжыме царскім, што выдаваліся ўвесь час у Заходняй Беларусі пры нямецкай акупацыі ды пад панаваньнем "панскае" Польшчы, - у "сваёй сувэрэнай" рэспубліцы, пры ўладзе "савецкай дэмакратычнай", партыйная цэнзура забараніла.

Вынікам савецкае забароны друку календароў-кніжак для народу паўстала вельмі вымоўнае палажэньне: календары на сваёй зямлі беларусы могуць сабе выдаваць сяньня толькі за межамі свае рэспублікі. Беларускія календары шматтысячнымі тыражамі штогод выдаюцца для колькіх беларускіх паветаў Беласточчыны, што пад Польшчай. Выдаюць таксама календары – у Эўропе, Амэрыцы, Аўстраліі, — беларусы краёў вольнага сьвету. Ня друкуюцца сяньня календары толькі ў "Беларускай рэспубліцы"! Гэтак, пад крык пра разьвіцьцё, а нават "касаваньне" пры савецкім рэжыме беларускага друку, беларускія календары каляніяльная адміністрацыя даявяла да стану, які існаваў 450 гадоў таму – да стану даскарынавага.

Доля беларускага календара ў савецкую пару гісторыі беларускага народу, зразумела, толькі адзін з прыкладаў таго, да якое канчатковае мэты мяркуе партыя давесьці з часам увесь беларускі друк БССР. Ведама ўсім вымоўная статыстыка гэтага друку: у рэспубліцы, 80% жыхароў якое беларусы, 80% кніжак друкуецца не па-беларуску, але па-расейску. Калісьці, у гадох 1930 –1935, справа выглядала йнакш. Тады ў БССР па-беларуску друкавалася 85% усіх выдаваных у рэспубліцы кніжак.

Каб у XX стагодзьдзі народ дзесяці блізу мільёнаў дзяржавы, сябры Задзіночаных Нацыяў, ня меў права на свой, сваёю мовай друкаваны каляндар – выпадак гэта ў гісторыі цывілізаванага сьвету ўнікальны. Гэнасыдныя пасягненьні падобнага характару народу аднаго на асноўныя нацыянальныя правы народу іншага ўзьчымаюцца звычайна на форум Задзіночаных Нацыяў. Там, аднак-жа Беларусь рэпрэзэнтуюць, як ведама, не пасланцы народу, але слугі тае самае Масквы, якая права на каляндар беларускаму народу адабрала. Голасу пратэсту ў абароне народу нявольнікі не падыймуць.

Дзеля гэтага пара, каб яскравы прыклад народагубнага гвалту над нацыянальнымі правамі беларускага народу да ведама Задзіночаных Нацыяў і ўсёй публічнай апініі сьвету давяла беларуская эміграцыя.

Найперш на ўсходзе Эўропы распачаты друк, друк беларускі на беларускай зямлі, неражываў пазьней ці раз пору свайго ўздыму й цяжкога заняпаду. Былі часы й жорсткага пераследу ды нават татальнае забароны. Здушыць, зьнішчыць беларускі друк жандарскімі мерапрыемствамі ды "указамі" Масквы ўсё-ж не ўдалося. Каб дайсьці да гэтае самае народагубнае мэты сяньня тарнуюцца іншыя спосабы й мэтады – пляновага паступовага абмяжоўваньня ды ліквідацыі беларускага друку на беларускай зямлі, у "сваёй-жа" рэспубліцы, з разьлікам, штопры адначаснай абнаглелай русыфікацыі з часам сам беларускі народ свайго роднага друкаванага слова вырачацца.

У гістарычна гэтак цяжкую пару яшчэ для беларускага народу нам, Скарынавым суродзічам, што цяпер за межамі свае зямлі, сялетнія ўгодкі друку прыгадваюць нацыянальна вельмі важны абавязак: яшчэ з большай наважнасьцяй рупіцца, каб вольнае беларускае слова, каб незалежная беларуская палітычная й навуковая думка разьвівалася далей у сваім вольным беларускім друку. У ўмовах свабоды дэмакратычнага сьвету, дзе няма абмежаваньняў каляніяльнае адміністрацыі ні вялікадзяржаўнае партыйнае цэнзуры, гэта залежыць толькі ад нас, нашае актыўнасьці, нашае ахвярнасьці.

Вось гэты нацыянальны абавязак прыгадваюць нам сялетнія 450-я ўгодкі заснаваньня доктарам Скарынам першае друкарні на беларускай зямлі ды выхаду ў сталічнай Вільні першае друкаванае кнігі – МАЛОЕ ПАДАРОЖЖА КНІЖКІ.

*Верасень 1972 году.*

# " Ты прабач нас, Францішак"

*Як я памру –*
*прыбіўце сэрца мне калом,*
*Асінавым калом*
*прабіўце його наскрозь.*
*І закапайце*
*мой глыбока ў зямлю труп*
*Ды камень,*
*як гару, узваліце мне на гроб,*
*Каб я ўстаць ня мог...*
*Францішак Аляхновіч.*

Такія радкі напісаў Францішак Аляхновіч у маладосці, як бы прадказаўшы свой лёс – трагічны і цяжкі. Аўтантычны вілянчук, нарадзіўся 9 сакавіка 1883 года ў сям'і беларускай збяднелай шляхты. У сям'і хацелі даць сыну трывалую прафесію, але яго выбіла сцэна, відаць, паўплывала тое, што дзед і бацька былі музыкантамі, праца-валі ў тэатрах. Дзякуючы бацьку ён рана пазнаёміўся з тэатральнаю сцэнаю. Вучыўся Францішак у гімназіі, потым у хіміка-тэхна-лагічнай школе, але ні тое, ні другое не закончыў. Адзін прадмет, які яму падабаўся было маляванне, што потым яму дапамагло ў рэжысёрскай дзейнасці, ён сам ствараў і замалёўваў інтэр'еры сваіх спектакляў. У 1903 годзе едзе ў Кракаў, у драматычную школу, але ў тым годзе яна не працавала, паступае на літаратурна-гістарычны факультэт Кракаўскага універсітэта, потым, праз год едзе ў Варшаву, паступае ў Драматычную школу пры Музычным таварыстве, дзе і закончылася ў 1907 г. спасціжэнне таямніцаў акторскага майстэрства.

У 1908 г. вяртаецца ў Вільню, піша першыя беларускія сцэнічныя творы, арганізуе першы беларускі спектакль. Нейкі час выдаваў гумарыстычны часопіс "Пяркунас", за які быў прыцягнуты да суда, да 1913 году змушаны жыць на чужбіне. А калі вярнуўся, адбыў турэмную кару (1914-1915), сядзеў на Лукішках. У турме напісаў сваю першую п'есу " На Антопалі", спачатку па-польску, потым перапісаў па-беларуску.

У чэрвені 1918 г.– сакавіку 1919 г. Аляхновіч перайшоў фронт і апынуўся ў Менску, дзе працаваў акторам і рэжысёрам Першага беларускага таварыства драмы і камеды, арганізаваў свой беларускі народны тэатр, у якім ставіў, у асноўным, свае п'есы. У ліпені 1920 г. вярнуўся ў Вільню, да 1926 г. напружана, творча працуе, піша свае лепшыя п'есы (вядома 19 п'есаў Аляхновіча). У 1926 годзе, напрыканцы, ён быў запрошаны на творчую канферэнцыю па правапісу ў Савецкую Беларусь, у Менск, дзе і быў арыштаваны і сасланы на Салаўкі на дзесяць гадоў. Адпакутаваў там сем гадоў і ў 1933г. быў абмяняны на вязьня польскай турмы Браніслава Тарашкевіча, сустрэліся на памежным мастку, прыўзнялі капялюшы і развіталіся назаўсёды, адзін паехаў на ўсход, другі – на захад. Францішак Аляхновіч вярнуўся ў Вільню, напісаў кнігу " У кіпцюрах ГПУ". (1935-1937г) – гэта была першая кніга пра жахі, перажытыя савецкімі катаржанамі ў сталінскіх кратах. Спачатку яна выйшла на польскай мове, на працягу двух гадоў яна выйшла на сямі мовах у Еўропе і Амерыцы. Вядома, Савецкае НКВД гэтага яму не магло дараваць, таму Францішак Аляхновіч, як і В.Іваноўскі і Ул.Казлоўскі, уваходзілі ў лік асобаў, вызначаных у Маскве на першачарговае знішчэнне. Падчас 2-й Сусветнай вайны драматург напісаў новыя п'есы, працаваў над кнігай успамінаў пра беларускі адраджэнскі рух у Менску і Вільні. У 1943 годзе беларуская грамадскасць шырока адзначыла 60-годдзе "бацькі беларускага





Францішак Аляхновіч

тэатра". А 3 сакавіка 1944 года, ён быў растраляны на сваёй кватэры. Апошнія яго словы: "Звані, звані!" Да гэтага часу не вядома, хто зрабіў гэтае злачынства ці савецкія дыверсанты, ці баявікі Арміі Краёвай. Ворагі беларушчыны існавалі і існуюць. Францішак Аляхновіч – вядомы беларускі дзеяч у міжваенны час, ён адзін з жменькі віленскай інтэлігенцыі, якая на пачатку 20 стагоддзя выбрала няпросты шлях — служэнне свайму народу, паверыла ў яго і верыла ў яго будучыню. Яны былі самыя лепшыя. Драматычныя творы Фр. Аляхновіча, друкаваныя пераважна ў Вільні – сёння бібліяграфічная рэдкасць. Яны цікавыя і для сённяшніх віленчукоў, іх персанажы колішнія віленчукі, яны перадаюць тую атмасферу, тое пачуццё, сведкамі якога яны былі. Імя яго было доўга ў забыцці. Пахаваны быў драматург на эвангельцкіх могілках.

У 60-я гады могілкі зліквідавалі, там пабудавалі Палац шлюбаў, далей Палац праўсаюзаў. І толькі ў 1989 годзе, дзякуючы намаганням Таварыства Беларускай Культуры, менавіта Хведара Якубавіча Нюнькі, здзейснілася ягоная шматгадовая мара. Тады яшчэ жыў Янка Багдановіч, — сведак пахавін Фр. Аляхновіча ў 1944 г., ён і паказаў прыблізнае месца захавання і ў 1989 годзе парэшткі перапахавалі на могілках Росы, праз два гады ў 1991 годзе віленскі архітэктар Э.Падбярэскі зрабіў трывалае надмагілле.

3 сакавіка споўнілася 55 гадоў з дня трагічнай смерці драматурга, у ТБК адбыўся вечар памяці, на якім выступіў Хв. Нюнька, Н. Пяткевіч, прысутнічаў Э. Падбярэскі. Быў паказаны фільм "Перазаховіны Францішка Аляхновіча". Фр. Аляхновіч – чалавек такога трагічнага лёсу, любіў свой народ, верна яму служыў і аддаў самае дарагое – жыццё. У 1937 годзе сваю кніжку "У кіпцюрах ГПУ" ён выдае па-беларуску за свой кошт. Да пачатку 90-х гадоў забаронены, гэтаму ўплывае сталінская ідэалогія і перыяд застою. У 1994 годзе кніга выйшла ў выдавецтве "Мастацкая літаратура", тыраж 9 тысяч асобнікаў, дзякуй Богу, што хоць у такой колькасці паспела выйсці. Зараз зноў неспрыяльны час для твораў Фр. Аляхновіча, як і для ўсяго беларускага. Добра ведаю становішча тэатра Янкі Купалы, які больш менш трывала існаваў ва ўсе часы, цяпер многія спектаклі забаронены і сам тэатр выжывае. То можна ўявіць у якім становішчы тэатр "Дзе я?", у рэпертуары якога п'есы Фр.Аляхновіча. Напрыканцы мінулага году дырэктар тэатра "Дзея?" прыязджаў у Вільню, каб наладзіць гастролі ў Вільню, сустракаўся з вучнямі школы, многа гаварыў пра п'есы драматурга, пра асобу Аляхновіча, паказваў урыўкі з спектакляў запісаныя на відэа, сустракаўся з некаторымі беларускімі дзеячамі Вільні, наведаў могілкі Росы, паклаў запрашэнне і развітаўся – да хуткай сустрэчы Францішак. А сустрэча, відаць, не адбудзецца. Ад роспачы хочацца крычаць: "Дакуль жа мы будзем Іванамі не помнящими родства!"

*Леакадзія Мілаш,*
*г.Вільня*

# "Вольныя танцы". Будзем слухаць сваё!

Колькі ж раз за апошнія 10 год у беларускай прэсе ўздымалася пытанне пра неабходнасць вытворчасці айчыннай аўдыёпрадукцыі – грамафонных кружэлак і кампакт-дыскаў! Улады і рэжымы перыядычна змяняюцца, але праблема застаецца невырашанай, бо не цікавая беларускай дзяржаве.

Вось і атрымліваецца, што беларускі эфір, а з ёй і культурны кантэкст, запоўнены імпартнай музычнай прадукцыяй, лепшага ці горшага гатунку. І гэта становіцца заганнай звычкай. Але не для ўсіх.




Па-першае, у Беларусі апошнім часам з'явілася даволі шмат самабытных выканцаў: рок-гуртоў, бардаў, інструменталістаў. Па-другое, беларуская сучасная музыка розных кірункаў (рок, бардаўская песня, фолк і поп) знаходзіць свайго сталага слухача, які гатовы аддаць грошы за кружэлку свайго ўлюбёнага калектыву. Ну і апошняе: ёсць людзі, гатовыя задаволіць гэты попыт, а, па вялікаму рахунку, узяць на сябе клопат дзяржавы – выдаваць музычную спадчыну сучаснасці.

Адно з першых спроб ажыццяўлення такога праекту належыць супрацоўнікам БЕЛАРУСКАЙ МУЗЫЧНАЙ АЛЬТЭРНАТЫВЫ (БМА- груп) Сяргею Бялевічу і Вітаўту Супрановічу. А праект гэты – выданне паўнавартаснага кампакт-дыска с запісамі кампазіцый беларускага рок-н-ролу. Усе пятнаццаць гуртоў, прадстаўленых на CD, удзельнікі іншага праекту БМА – груп – цыклу канцэртаў-акцый "Вольныя танцы". Таму і назва дыска адпаведная – "Вольныя танцы: слухай сваё!"

Перад намі, слухачамі, панарамная кампіляцыя як добравядомых беларускіх гуртоў (УЛІС, НОВАЕ НЕБА, НРМ, ПАЛАЦ, КРАМА), так і маладых (ЗЬНІЧ, СКЛЕП, EXIST, POSTSCRIPTUM). Адзначэнне "панарамная" адпавядае і стылёвай разнастайнасці сабраных на дыску кампазіцый. Але на тое гэта і кампіляцыя, каб з яе дапамогай спрасціць працу вядучых радыё-эфіру, ды-джэяў, якім, не ў апошнюю чаргу, адрасуецца дадзены капмакт-дыск.

Для незаангажаванага ж слухача дадзеная музычная зборка – гэта магчымасць адкрыць для сябе "тэра інкогніта" – краіну беларускага рок-н-рола, з яе зоркамі і легендамі, "старымі" жыхарамі і маладзейшымі плынямі.

З чым нельга пагадзіцца ў дадзеным выпадку, дык гэта са сцверджаннем складальнікаў "Вольных танцаў" таго, што "...БМА –груп фіксавала надзвычай нізкую актыўнасць беларускамоўных камандаў на рок-эстрадзе Менска і рэгіёнаў..."

Нават пятнаццаць калектываў на згаданым кампакце ўяўляюць сабой сапраўдны рок-рух, дывізіён, стварыць які немагчыма з дапамогай адной, нават вельмі ўдалай, акцыі. Беларускамоўныя гурты з'яўляліся, стваралі сваю класіку, набывалі вядомасць, ладзілі свае выступы як у Беларусі, так і за мяжой, а, бывала, і распадаліся, знікалі. І гэта адбывалася ўвесь час да "Вольных танцаў". Так што на рэвалюцыйнасць прэтэндаваць арганізатарам акцыі "Вольныя танцы", відаць, ранавата. Былі ж да іх і "Тры колеры", і "Басовішча", і "Рок-карапацыя"...А вось адчуць сябе часткай эвалюцыйнага працэсу станаўлення беларускамоўнага рок-н-ролу ніколі не пашкодзіць.

Тым не менш, арганізатарам і выдаўцам кампакт-дыска "Вольныя танцы" удалося ажыццявіць нязьдзейсненую мару стваральнікаў першага беларускага рок-клуба "Няміга" – аб'яднаць беларускіх рок-выканаўцаў на аснове першакрыніцы самабытнасці нашай рок-музыкі – беларускай мовы. У гэтым давялося ўпэўніцца трапіўшы на прзентацыю згаданага кампакт-дыска, зладжаную БМА-груп. Быццам вяртаешся на першыя паседжанні "Нямігі" ў 1989 годзе! Той жа аптымізм, узаемапавага і ўзаемаразуменне...

Што ж датычыцца агульнага ўражання праслухоўвання новага CD, то можна канстатаваць яго рэпрэзэнтатыўнасць: беларускамоўны рок-н-ролл паўстае па ім як паўнавартасная музычная з'ява, з самабытным гучаннем і меладызмам. "Вольнымі танцамі" укладальнікі яго сур'ёзна заяўляюць слухачам: "Беларускі рок-н-ролл – плынь рэальная, арыгінальная і самадастатковая!"

*Анатоль Мяльгуй,*
*Менск.*

**Рэдактар Станіслаў Суднік**

*Заснавальнік:*
ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі:*
№ 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
*Адрас рэдакцыі:*
220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:*
231300, г. Ліда-2, п/с 7.
*E-mail:* ns@lida1.lingvo.grodno.by

*Рэдакцыйная калегія:*
Людміла Дзіцэвіч, Леакадзія Мілаш, Язэп Палубятка,Алесь Петрашкевіч, Лілея Сазанавец, Уладзімір Содаль Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

*Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі*
Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Кошт па дамове.Газета падпісана да друку 10. 05. 99 г.
Наклад 4500 асобнікаў. Замова № 1252.
*Падпісны індэкс:* 63865.
*Кошт падпіскі:* 1 мес.- 20 000 руб., 3 мес.- 60 000 руб.
*Кошт у розніцу:* 10 000 руб.